Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!




# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 8 ліпеня 1988 г. № 28 (3438) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## «АДВЕЧНЫ ВОДГУК ПРАЎДЫ, ВОЛІ...»

І ты, маё апавяданне,
Жыцця адбітак,
разважання,
Нязжыты след прасцяцкай
долі,
Адвечны водгук праўды,
волі,
Ужо бачыш дзень свайго
змяркання...
І смутна мне: я жыў
з табою
Адною думкаю, душою,
Насіў цябе, як носіць маці
Няясны воблік той дзіцяці.

Гэтыя радкі ўзяты з апошняга раздзела паэмы «Новая зямля». Якуб Колас развітваўся са сваім творам. Прайшоўшы дарогамі і сцежкамі дзяцінства і юнацтва, перажыўшы з героямі нягоды і радасці жыцця, ён рыхтаваў паэму да сустрэчы з чытачом. І яна, гэтая сустрэча. адбылася ў 1923 годзе, калі твор выйшаў у свет асобнай кнігай, — шэсцьдзесят пяць гадоў назад.

На свет радзілася бурлівы
Яшчэ далёкаю вясною
За мураванаю сцяною
У няволі жудаснай астрога,
Калі над намі ноч-аблога
Навісла цемраю густою
І гнула цяжкаю пятою,
Як неадхільная навала,
Усё, што жыцце асвятляла.

«Калі я сядзеў у астрозе, — успамінаў Якуб Колас, — перада мною вельмі ярка паўсталі малюнкі маленства, прыроды. Я не думаў тады яшчэ аб напісанні паэмы. Хацелася проста расказаць аб тым, што так маляўніча паўстала ў маёй памяці. Я апісаў леснікову пасаду. Затым з'явілася жаданне напісаць большае. Так паступова вырастала «Новая зямля».

Памяць народнага песняра і яго магутны талент захавалі і данеслі да нашых сэрцаў яркую карціну жыцця селяніна-працаўніка з яго штодзённымі турботамі і хваляваннямі, з яго звычаямі і традыцыямі...

Героі славутай паэмы нібы сышлі са старонак кнігі да людзей на вялікім свяце, што мінулай нядзеляй прайшло ў родным паэтавым куце.

Каляровымі сцяжкамі аздоблена тэрыторыя ўрочышча «Бервянец» у Стаўбцоўскім раёне. На цэнтральнай эстрадзе — словы Якуба Коласа:

Былы нявольнік і падданы,
Ты вольным стаў, наш
край, цяпер,
К жыццю Кастрычнікам
прызваны
Жыві ж, красуй, БССР!

Гучаць пазыўныя свята—музыка І. Лучанка «Мой родны кут...» На сцэну выходзяць... Міхал, Ганна, Антось, дзеці. Яны пачынаюць прадстаўленне.

Цяпер разгорнем часаў
шаты,
Бліжэй прыгледзімся да
хаты,
Да Міхася і да Антося,
Як там вялося, як
жылося, —

чуецца з рэпрадуктара голас дыктара. Ідзе тэатралізацыя першага раздзела паэмы. Затым Ганна запрашае ўсіх на кірмаш. Там працуюць чатыры пляцоўкі. На першай разыгрываецца «Панская пацеха». На цэнтральнай эстрадзе адбываецца «Падгляд пчол». Разгорнуты выстаўкі: жывапіс самадзейных мастакоў і беларускага народнага адзення. Тут жа і фотавыстаўкі — М. Мазура «Не старэюць душой ветэраны» і В. Зянько «Сказ аб роднай зямлі».

Плён сваіх умелых рук прапануюць разьбяр Л. Сянько з Заямнага, пляцельшчык з лазы М. Белановіч (Шахноўшчына), жывапісцы раённага клуба «Пралеска».

Заварожвае ўсіх сваімі вырабамі майстрыха-пячніца Валянціна Уласік, жыхарка Стоўбцаў. Аж не верыцца, што гэткае магчыма. З мукі — ды цуд такі?! Альбуць — масток, крынічка, хата... «Раніца ў нядзельку» (ля печы маці, побач тоўпіцца дзятва...). Хораша, прыстойна! Вядомыя і... ядомыя «кавалкі» славутай паэмы!

Зноў — голас дыктара. На сцэну запрашаюцца госці з Мінска: сын Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч, пісьменнікі П. Прыходзька, М. Татур, В. Жуковіч, А. Асташонак, настаўніца Бараўлянскай СШ № 2 Э. Ярчак, дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа З. Камароўская. Яны вітаюць прысутных, гавораць пра неўміручасць «Новай зямлі» і ўсёй творчай спадчыны песняра, паэты чытаюць вершы, прысвечаныя вялікаму сыну беларускай зямлі.

Выступленні самадзейных калектываў Стаўбцоўшчыны дапаўняюць спевакі, чытальнікі і танцоры, што прыехалі з Мінскага маторнага завода.

Гарачымі воплескамі сустрэлі прысутныя заслужаную артыстку БССР В. Пархоменку і яе спадарожніка, спевака і гарманіста А. Казака.

На сцэне — аб'яднаны, у некалькі соцень галасоў, хор. Гучаць беларускія песні. Апошняй — слынны «Нёман». Быццам на яго плаўных хвалях сплываюць са ступенек харысты і расплываюцца з тэрыторыі спеўнага поля святкоўцы. У суладдзі з іх настроем гучаць з рэпрадуктара радкі:

Малюнкі родныя і з'явы!
Як вы мне любы,
як цікавы!
Як часта мілай чарадою
Вы ўстаяце перада мною!

Іван КУРБЕКА.




Выступае Пятро Прыходзька.



Заслужаная артыстка БССР Валянціна Пархоменка і артыст Алесь Казак.



Удзельнікі свята наведалі хату, у якой нарадзіўся пясняр.



Народнае гулянне.

## У НУМАРЫ:

таратурным обозрением». А потым без ценю хвалявання паведамілі, што ў вольны продаж «ЛіМ» не паступае. На натуральнае пытанне «чаму?» пачуў: «Газету даводзілася спісваць, яе ніхто не чытае».

Не мог не скарыстаць магчымасці, каб даведацца пра лёс іншых беларускамоўных выданняў. Высветлілася, што «Полымя», «Маладосць», «Беларусь» і іншыя трапляюць у кіёскі горада ў колькасці 10—20 экземпляраў. Гэта на 80-тысячны горад! Незайздросны лёс і беларускамоўных рэспубліканскіх газет.

Можа, палачане проста не чытаюць перыёдыку, у тым ліку і беларускую, не набываюць газеты і часопісы ў кіёсках? Але вось такі факт: калі ў 9 гадзін раніцы газет у продажы яшчэ няма, то ў 10 гадзін іх ужо няма.

Многа ўзнікае пытанняў і версій са становішчам беларускамоўных газет і часопісаў, у прыватнасці, «ЛіМа». Але я больш чым упэўнены, што гэта цалкам мясцовая ініцыятыва. Можа, некаторым мясцовым кіраўнікам не спадабаліся крытычныя выступленні газеты аб стане і ахове помнікаў гісторыі і культуры ў Полацку? Але з другога боку, сучаснае культурнае жыццё горада — канцэрты сусветнавядомых музыкантаў у зале Сафійскага сабора, музычныя фестывалі, мастацкія выстаўкі не зыходзяць са старонак «ЛіМа», як і матэрыялы на гістарычную тэму, ад якой неаддзельны старажытны Полацк. Значыць, і гэтыя старонкі газеты таксама праходзяць па-за ўвагай палачан?

Карацей кажучы, пакуль даводзіцца жыць у Полацку і тэлефанаваць у Мінск, каб пераслалі сюды некалькі экземпляраў «ЛіМа» поштай. І спадзявацца на перамены.

**С. ТАРАСАЎ,**
**археолаг.**

●

**30 ЧЭРВЕНЯ ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце адбывалася абарона дыпломных работ. Звычайнае штогодняе мерапрыемства, скажаце вы, і памыліцеся, таму што дыпломнікі гэтыя — першы пасля дваццацігадовага перапынку выпуск сцэнографаў...**

**Сёння цяжка сказаць, каму і як у канцы шасцідзесятых гадоў узбрыла ў галаў думка, што падрыхтоўка нацыянальных кадраў для беларускага тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва — непатрэбны клопат. Можна толькі назваць некаторыя «вынікі» гэтага рашэння. На працягу 70—80 гадоў у сцэнаграфіі рэспублікі парушыўся натуральны працэс змены пакаленняў. Моладзь не прыносіла новых ідэй, не ўзбуджала тэатральную думку, майстрам не было каму перадаваць свой вопыт. *Гэта не магло не адбіцца* на ўзроўні і тэмпах развіцця беларускага тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва, дзе вельмі марудна адбываўся працэс абнаўлення выяўленчай мовы сцэны. Залішне «сціпла» выглядаў беларускі раздзел на Усесаюзнай выстаўцы мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання, якая адбылася ў 1987 годзе ў Маскве. Прыкра. Крыўдна. Тым больш, што ў краіне ў 70—80-х гадах вельмі актыўна ішоў працэс фарміравання нацыянальных школ сцэнаграфіі — грузінскай, украінскай, латвійскай, літоўскай... У сярэдзіне васьмідзесятых гадоў тэатры рэспублікі адчулі востры дэфіцыт кадраў мастакоў-пастаноўшчыкаў і спецыялістаў па сцэнічным касцюме.**

**На VII з'ездзе БтА, які праходзіў у 1982 годзе, стан тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва рэспублікі вызначаўся як крызісны. Дэлегаты выказаліся за неабходнасць аднаўлення падрыхтоўкі тэатральных мастакоў у БДТМІ, у БТА была створана секцыя сцэнаграфіі, у рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў сталі экспанавацца выстаўкі работ мастакоў тэатра. Але сур'ёзных перамен да лепшага можна было чакаць толькі пасля стабілізацыі кадравай сітуацыі.**

**Тады ж, у 1982 годзе, быў набраны курс будучых мастакоў тэатра. І вось, праз шэсць гадоў вучобы пад кіраўніцтвам нашага буйнейшага сцэнографа народнага мастака БССР Я. Чамадурава, адбылася абарона дыпломных работ сцэнографаў. Мне давялося прысутнічаць на ёй у якасці рэцэнзента, і ўзровень работ мяне не расчараваў. Мастацкаму кіраўніку курса ўдалося выхаваць у вучняў высокі ўзровень мастацкай культуры, пры гэтым зберагчы і развіць іх творчыя індывідуальнасці. Дыпломнікі цікава распрацавалі самы розны драматургічны матэрыял. Сярод прадстаўленых прац — эскізы і макеты С. Раповіча да трагедыі «Макбет» У. Шэкспіра, Т. Герасімовіч («Аліса ў краіне цудаў» Л. Кэрала), С. Мітрафанава («Публіка» Ф. Г. Лоркі) і шмат іншых цікавых работ. Я. Чамадураў перадаў сваім выхаванцам сцэнічнасць мыслення — большасць прац уяўляюць сабой задумы і распрацоўкі менавіта ігравой прасторы, з унутранай дынамікай і шырокімі магчымасцямі змен. Урэшце, ён навучыў іх любіць тэатр.**

**Але што ім рабіць цяпер з гэтаю, на жаль, не падзеленаю любоўю?**

**Толькі адзін з выпускнікоў атрымаў размеркаванне на працу ў тэатр. Астатнім выдалі свабодныя дыпломы. Нехта ўжо ідзе на кінастудыю, нехта — на тэлебачанне, некаторыя падумваюць пра заняткі жывапісам, а сёй-той пакуе чамаданы. Міністэрства культуры РСФСР выказала большую зацікаўленасць маладымі сцэнографамі, чым беларускае, калі прапанавала ім працу ў тэатрах Свярдлоўска, Валгаграда, Хабараўска.**

**Чаму ж такі доўгачаканы курс аказаўся непатрэбным нашым тэатрам? Каго чакаюць даўно вакантныя пасады мастакоў-пастаноўшчыкаў у Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, Рускім тэатры БССР імя М. Горкага, у абласных драмтэатрах? Якія сцэнографы прыйдуць заўтра ў шматлікія тэатры-студыі? І ці не давядзецца праз некалькі гадоў Міністэрству культуры БССР запрашаць на работу гэтых самых спецыялістаў, але ўжо прызнаных і прафесійна моцных, на працу ў рэспубліку, і атрымліваць адмову (як гэта цяпер адбываецца з рэжысурай)? Далейшы лёс нашых выпускнікоў выклікае шмат сумненняў і пытанняў, галоўнае з якіх — калі, нарэшце, мы здолеем перапыніць гэты бясконцы адыход з рэспублікі — мастакоў, пісьменнікаў, акцёраў, рэжысёраў, журналістаў? Кожны з іх — часцінка нашай культурнай глебы.**

**Галіна АЛІСЕЙЧЫК,**
**навуковы супрацоўнік ІМЭФ АН БССР.**

●

КОЖНЫ РАЗ, калі я прыязджаю да маці ў вёску Пагарэлку, што ў Карэліцкім раёне, і іду па вуліцы, мой позірк спыняецца на шыльдзе з надпісам: «Пагарэлкаўскі філіял Ярэміцкай цэнтралізаванай сістэмы».

Аднапавярховы цагляны будынак невялікіх памераў прыстасаваны пад клуб і бібліятэку. Раней у ім размяшчалася быткамбінатаўская швейная майстэрня. Памяшканне — з глядзельнай залай у 35 квадратных метраў і маленечкай, бы градка, сцэнай. Тут усяго 40 пасадачных месц, а разлічаны гэты будынак на дзве вёскі — Пагарэлку і Быковічы, якія цяпер зліліся ў адну. У Пагарэлцы, якая да ўзбуйнення была цэнтрам калгаса «Чырвоны партызан», каля 60 двароў, у Быковічах — каля 100.

Стары драўляны клуб, які аджыў сваё, хіліцца долу.

— Гэты ж, цяперашні, клуб малы для дзвюх вёсак, ён зусім не *адпавядае патрабаванням* сённяшняга часу,— растлумачыў мне загадчык клуба і мастацкі кіраўнік Леанід Маклюк.— Паглядзіце, як мы жывём: вакол абшарпаныя шэра-бруднага колеру сцены, зламаныя крэслы, цячэ дах, у нас нават радыёкропкі няма...

— Мы зрэдку ходзім сюды,— з крыўдай гаворыць студэнт радыётэхнікума Пётр Хварэнік,— часцей у Ярэмічы, гэта за тры кіламетры, там і дыскатэка, танцы, збіраецца моладзь, а што тут, у Пагарэлцы?

*Яго падтрымоўвае і Мікалай* Сініца—малады будаўнік з Быковіч.

— Як мы гаварылі даўней, вайну перажылі... У нашым партызанскім краі немцы закатавалі амаль кожнага трэцяга. Колькі таго жыцця засталося нам, а сёння няма дзе адпачыць нашым вяскоўцам, моладзі,— гаворыць прыбіральшчыца Марыя Царук.

Колькі дакору, справядлівага асуджэння, папроку ў гэтых словах!

Шкада, што партыйная арганізацыя калгаса імя У. Царука і аддзел культуры Карэліцкага райвыканкома не могуць павярнуцца тварам да культурнага жыцця вёскі.

**М. БУСЬКО.**
г. Баранавічы.

●

ТОЙ, ХТО ЧЫТАЕ часопіс «Политический собеседник», не мог не заўважыць, як акадэмік АН БССР І. М. Ігнаценка рап-там «паглыбіў» Леніна, «скарэкціраваў» ленінскую нацыянальную палітыку. У сваім артыкуле «Партыя і перабудова: урокі гісторыі», надрукаваным у чэрвеньскім нумары часопіса, І. М. Ігнаценка, у прыватнасці, піша: «У Саюзе пісьменнікаў многа ўвагі нацэлена на тое, каб дабіцца прыняцця закона і зрабіць беларускую мову дзяржаўнай. Супраць такой пастаноўкі пытання катэгарычна выступаў У. І. Ленін. «За дзяржаўную мову стаяць, — пісаў ён, — ганебна. Гэта паліцэйшчына». Пры гэтым, дадаваў Ленін, «прапаведваць» другім нацыям рускую мову — «тут няма ні ценю паліцэйшчыны»...

Такі пераказ, такое, з дазволу сказаць, прачытанне ленінскай тэорыі не можа не збянтэжыць чытача недасведчанага, ну а крыху дасведчанага і збянтэжыць, і здзівіць, і выкліча ў яго пратэст. Акадэмік І. Ігнаценка ідзе на яўную падтасоўку, блытае выказванні Леніна па пытанні аб дзяржаўнай мове ў шматнацыянальнай краіне з яго трактоўкай, яго поглядамі ў дачыненні да становішча мовы той або іншай нацыі.

Падмена відавочная, для сур'ёзнай спрэчкі няма падставы. Але на той выпадак, што шаноўны акадэмік ідзе на падмену несвядома, з прычыны няведання азоў ленінскай нацыянальнай канцэпцыі, мы раім яму прачытаць (ці, можа, перачытаць, сёння мы ўсе перачытваем Леніна нанова) такія яго працы, як «Тэзісы па нацыянальным пытанні» (Поўны збор твораў У. І. Леніна, т. 23, стар. 314—322), «Крытычныя заметкі па нацыянальным пытанні» (т. 24, стар. 113—150), «Да пытання аб нацыянальнасцях альбо аб «аўтанамізацыі» (т. 45, стар. 356—362)... Раілі б таксама асвяжыць у памяці такія вядомыя дакументы, як «Рэзалюцыя ЦК РКП(б) аб Савецкай уладзе на Украіне», як рэзалюцыя XII з'езда партыі, дзе выразна сфармуляваны ленінскія прынцыпы нацыянальных адносін, ленінскае патрабаванне «выдаваць спецыяльныя законы, якія забяспечваюць ужыванне роднай мовы ва ўсіх дзяржаўных органах і ва ўсіх установах» (пункт 10 рэзалюцыі XII з'езда ВКП(б).

Спадзяёмся, што, асэнсаваўшы як след ленінскую спадчыну *ў галіне нацыянальнай палітыкі*, акадэмік І. М. Ігнаценка атрымае, нарэшце, правільнае ўяўленне аб тым, супраць чаго і за што катэгарычна выступаў Ленін, і не будзе ўводзіць у зман чытача.

**П. САДОЎСКІ,**
**кандыдат філалагічных навук, старшыня моўнай камісіі Беларускага фонду культуры.**

## НАДЗЁННЫЯ РАДКІ

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

### Кар'ерыстам

По прыступках мармуровых
Ідзяце ўгару—туды,
Дзе шарэнгі крэслаў новых,
Дзе улады правады.

Азірніцеся! За вамі
Ваш народ.
Яго слугой
Вы сябе назвалі самі
Тою, даўняю парой.

Плодзіць час метамарфозы:
Пан зрабіўся са слугі.
Недагляды, перакосы,
Неаплатныя даўгі...

І ужо не ходзіць жонка
У чаргу, дзе ўсе стаяць.
І сумлення абалонка
Безразмернай можа стаць.

Азірніцеся! У змроку
Бачым новую зару.
Ні на міг
не сціхлі крокі.
Вы — ўгару...

**Васіль ЖУКОВІЧ**

### Пільнымі будзем!

Ці плача завея, ці ў лесе
цвітуць курапаты?
Я азірнуся на шлях, ён
крывавіць у часе
праклятым.

Падсцерагалі народ мой
бясконцыя чорныя здрады:
Сталіна, Берыі банды наносілі
страшныя страты,

лепшых сыноў зацкавалі,
згнаілі, знішчалі
злачынна.
Як жа змагла ты вынесці гэта,
Айчына!

Часу нямала прайшло, і не раз
памяняліся ўлады.
Як жа, нарэшце, дайсці нам
да толку якога, да ладу?

«Верныя ленінцы» — Брэжнеў,
і Грышын, Кунаеў, Раманаў,
іх акружэнцы — Чурбанаў,
Рашыдаў, Адылаў, Усманаў,

іншых мільёны зладзюг,
кар'ерыстаў пустых,
нігілістаў
ледзь не сцягнулі ў прадонне
краіну ўсю чыста.

Выбух чарнобыльскі — вынік
правалаў, развалаў:
ад гаспадарак да самых святых
ідэалаў.

Не мікра, а макра нам клімат
патрэбны здаровы,
каб шанаваліся людзі,
прырода і мовы,

каб сталіністам і брэжнеўцам
шлях быў закрыты
да ўлады,
Каб лідэры нашы ішлі у народ
за парадай.

**Міхась РУДКОЎСКІ**

### Пад ветрам перамен

Цяжкая ты, перабудова!..
Каб не спыніцца,
каб змагчы,
Тут метраном патрэбны новы
І трэба новыя падковы,
А мы усе шумім, крычым.

Крычыць з трыбуны, як
з амбону,
І ў застоллі, і з газет
Валюнтарыст, ілжэвучоны,
Самаабманлівы паэт.
Крычыць, пускаючыся ў танец,
Крычыць, як быццам
часу ў лад
І абласны палітыканец,
І казнакрад, і ашуканец,
І заскарузлы бюракрат.

Як распазнаць у гэтым хоры,
Хто конь рабочы, а хто моль,
Хто там з прыпеўкай і каторы
З душы выхрыпвае
свой боль?



Плён працы ганчароў.



Партрэт напамяць.

**кананні «Верасоў» гучыць песня В. Раінчыка на вершы У. Някляева «Родны мой горад». Да прысутных звяртаецца старшыня Мінскага гарвыканкома, дэлегат XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС У. І. Міхасёў. Гаворачы пра адметнасць сёлетняга свята, супадзенне яго з вызваленнем горада і рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, ён падкрэслівае, што памяць аб героях будзе жыць у памяці народа. Адно з пацвярджэнняў гэтай памяці — і правядзенне агульнагарадскіх святаў, якія з кожным годам напаўняюцца новым зместам. Сёлета ў свята «Мінск-88» хораша ўпісаліся фальклорнае народнае гулянне, ушанаванне маці-гераінь, конкурс «Мінская прыгажуня», іншыя мерапрыемствы...**

**Зводны хор пад кіраўніцтвам М. Дрынеўскага выконвае славутую песню «Нёман». А перад гэтым дыктар аб'явіў: «Вы пачуеце, як гучыць жывы, не запісаны на фанаграму голас». Што ж, добра, што нарэшце і ў такіх масавых, відовішчных мерапрыемствах пачынаем адмаўляцца ад запісаў, хоць зрабіць гэта і нялёгка. Колькі трэба, скажам, сабраць людзей, каб хор загучаў на стадыёне?!**

**Арганізатары свята пастараліся: былі запрошаны многія вядомыя прафесійныя выканаўцы і калектывы: тыя ж «Верасы», «Песняры», С. Захараў, Ю Антонаў, Г. Хазанаў, «Чараўніцы».**

**Было што паглядзець і паслухаць на стадыёне! Падводзіліся вынікі конкурсаў, разыгрывалася латарэя, выступалі спартсмены і зноў — спевакі, танцоры...**

**Свята яднала, згуртоўвала людзей. Дарэчы, яно будзе мець працяг у гэтую нядзелю на Камсамольскім *возеры*.**

**НАШ КАР.**

**ЭКАЛОГІЯ: ПРАБЛЕМЫ, СІТУАЦЫІ, КАНФЛІКТЫ**

*Алесь ДЗЯТЛАЎ*

# ЦІ СТАНЕ ПУШЧА ЗАПАВЕДНІКАМ?

ЛЕС ДАЕ ПРЫТУЛАК УСІМ. І звер, і птушка, і працаўніца-мурашка, і розныя казюркі жывуць тут у згодзе: кожны знаходзіць для сябе і жытло, і пажытак. І ўсё ж, прыйшоўшы ў лес, міжволі задумваешся: а ці ўсё добра тут, пад гэтымі шатамі, у гэтым казачным зялёным царстве? Будзе вечна шумець гэта хараство, радаваць чалавека ці з часам збяднее?

Пытанні няпростыя, асабліва ў наш час, калі з развіццём гарадоў, прамысловасці, сельскай гаспадаркі лакальнае ўздзеянне чалавека на прыроду змянілася глабальным уплывам на склад, рэсурсы і структуру ўсёй біясферы. І гэтыя развагі не даніна модзе, не яшчэ адна спроба згусціць фарбы.

Трывожныя галасы гучаць ужо даўно. Над экалагічнай праблемай задумваюцца вучоны і настаўнік, старшыня калгаса і лесавод, гараджанін і сельскі жыхар, бо ўсім патрэбны свежая вада, чыстае паветра, здаровыя лясы і лугі.

Адным з куткоў Беларусі, які ўжо цяпер выклікае трывогу, з'яўляецца Налібоцкая пушча.

Мне давялося прайсці і праехаць лесавымі сцежкамі-дарогамі паўднёва-ўсходняй яе часткі—ад Налібок да возера Кромань. Час быў перадзімні, тумановы, марозлівы, глухі. Менавіта ў гэты час лясныя насельнікі зашываюцца ў норы ці дуплы, хаваюцца ад старонняга вока ў голым лесе. Але ўсё роўна адчуваеш веліч бяскрайніх пушчанскіх прастораў, хараство задуменных рачулак, якія няспешна цякуць да Бярэзіны і далей, да сівога Нёмана. Хвалюе супакоеная ўрачыстасць палян, акружаных меднастволым борам і радкамі прыгажунь-бярозак.

Нечакана з-за рэдкага падлеску вызірнула люстра возера Кромань, бадай што, найпрыгажэйшага ў гэтых мясцінах. Яно яшчэ не замерзла, ляніва плюхаецца хвалькамі ў пакатыя пясчаныя берагі, а лес, быццам вартавы, ахоўвае яго, узіраецца ў крышталёвую ваду. Спакой і ўрачыстасць панавалі наўкола.

Падумаць толькі: 240 тысяч гектараў займае гэты лясны масіў, які носіць такую паэтычную назву — Налібоцкая пушча. Вольна і шырока раскінулася яна на тэрыторыі пяці раёнаў — ад Бярэзіны і Усы да Ашмянскай грады, ад падножжа Мінскага ўзвышша да Лідскай раўніны. У паўднёвай частцы масіву размешчаны Налібоцкі паляўнічы заказнік. Плошча яго 83 тысячы гектараў.

Як жа зберагчы гэтую прыгажосць, зрабіць так, каб гэты непаўторны край не змарнеў, не зачах, не лёг пад сякерай? Чым і як дапамагчы табе, пушча, у наш бурны век, калі тысячы машын і людзей штогод кіруюць на твае сцежкі, калі шматлікія дарогі праразаюць твае запаведныя мясціны? Калі штогод тысячы дрэў падаюць пад піламі лесанарыхтоўшчыкаў і новыя тысячы ўпадуць заўтра? Калі сквапнае вока браканьера цікуе, каб падстрэліць дзе-небудзь у глухамані лася ці дзіка?

Так, чалавек думае, як зберагчы багатую прыроду гэтага краю. Дваццаць восем гадоў назад быў створаны на тэрыторыі пушчы паляўнічы заказнік рэспубліканскага значэння, дзе захаваўся лес, дзе цякуць амаль два дзесяткі рэк і ручаёў, дзе водзіцца дзічына і растуць рэдкія для флоры рэспублікі расліны. Але стварыць заказнік — толькі палавіна справы, трэба ўсяляк яго зберагаць, ахоўваць.

Агульнае кіраўніцтва Налібоцкім паляўнічым заказнікам ажыццяўляе Валожынскі лясгас, правільней будзе сказаць, павінен ажыццяўляць. Паглядзім жа, як на тэрыторыі заказніка гаспадарыць чалавек.

Па-першае, некалькі лічбаў, якія характарызуюць тутэйшыя лясы. Маладнякі ў Валожынскім лясгасе складаюць 46,7 працэнта, сярэднеўзроставыя — 33,3, прыспяваючыя—12,3, спелыя — 7,2 працэнта ад усёй лесапакрытай плошчы. Шчыра кажучы, апошняя лічба выклікае сумненне — лесаўпарадкаванне ў лясгасе ў апошні раз праводзілася ў 1976 годзе, і можна сцвярджаць, што спелых лясоў там значна менш. Нягледзячы на тое, што ў лясгасе амаль палавіна лясоў маладых, яму даецца план нарыхтоўкі драўніны, які не толькі выконваецца, а нават і перавыконваецца. Лес сякуць як лясгас, так і прадпрыемствы Мінлеспрома БССР, менавіта — вытворчыя аб'яднанні «Мастадрэў» і «Маладзечналес». І прычым, заўважым, сякуць і ў заказніку, быццам і няма там тэрыторыі, якая павінна ахоўвацца, зберагацца.

Чатыры лясніцтвы, размешчаныя на тэрыторыі паляўнічага заказніка,—Румскае, Івянецкае, Каменскае, Пяршайскае — за апошнія адзінаццаць гадоў высеклі ў гэтых лясніцтвах (чытай, у заказніку) па высечках галоўнага карыстання каля 3 тысяч гектараў лесу. Да таго ж, у Пяршайскім, Румскім, Вішнеўскім і Каменскім лясніцтвах з 1976 года высечаны лес на 548,5 гектара, які не дасягнуў узросту спеласці. Больш чым у два разы зменшыліся плошчы спелых лясоў, на дзесяць працэнтаў — прыспяваючых.

Бываюць выпадкі, калі пад выглядам высечак догляду нарыхтоўваецца драўніна для выканання плана. Чытаеш гэтыя лічбы і думаеш: колькі ж лесу высечана па ўсёй Налібоцкай пушчы?

Да таго ж, агляд лесасек галоўнага карыстання, якія распрацоўваюцца лясгасам і прадпрыемствамі Мінлеспрома БССР, засведчыў, што лесанарыхтоўшчыкі не прытрымліваюцца тэхналогіі лесараспрацовак, а таксама не поўнасцю вывозяць з лесасек ліквідную драўніну. У месцах высечкі нярэдка знішчаецца падрост, падлесак, парушаецца глебавы покрыў.

Вядома, што дрэваапрацоўчая прамысловасць павінна атрымліваць сыравіну, значыць, трэба секчы лес. Ніхто супраць гэтага не пярэчыць. Але, відавочна, у лесе трэба гаспадарыць умела і ашчадна. Колькі яшчэ адходаў застаецца на лесасеках, колькі драўніны выкарыстоўваецца не так, як трэба! І яшчэ адно немалаважнае пытанне: навошта разглядаць заказнік як радавое лясніцтва і браць з яго ўсё, што можна, і нават больш? Такія метады гаспадарання наносяць вялікі ўрон прыродзе, які потым давядзецца выпраўляць наступным пакаленням. Паўстае законнае пытанне: ці не час спыніць наогул прамысловую высечку лясоў у заказніку?

Па тэрыторыі заказніка цякуць Іслач, Валмянка, Пяршайка, Сівічанка, Каменка, Ізледзь, шмат ручаёў. Хто хоць раз пабываў на іх берагах, услухаўся ў іх ціхае журчанне, пахадзіў ранкам па пясчаных водмелях, — назаўсёды запомніць іх вабнасць. Але і ім пагражае небяспека. Лес, галоўны захавальнік вады, і тут, па сутнасці, па-за законам: не выдзелены насаджэнні з абмежаваным рэжымам лесакарыстання — берагаахоўныя ўчасткі, участкі лесу каля вытокаў рэк і ручаёў.

Вось такое становішча ў адным з прыгажэйшых і цікавейшых куткоў Беларусі. Па сутнасці, лясны масіў заказніка з яго насельнікамі прыраўнаваны да радавога лясгаса, ды да таго ж, справы ў ім ідуць далёка не бліскуча.

Дык што трэба рабіць, каб гэты унікальны куток як па багацці флоры і фаўны, так і па сваім прыродаахоўным значэнні, захаваць?

ВА УМОВАХ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАГА ПРАГРЭСУ захаванне і рацыянальнае выкарыстанне біясферы — асяроддзя, дзе чалавек жыве, адна з важнейшых і неадкладных праблем чалавецтва. У выніку розных прычын збядняецца флора і фаўна. Напрыклад, за апошнія сто гадоў у Беларусі знікла каля 70 відаў раслін. Стаіць задача захаваць мясціны, дзе яшчэ растуць рэдкія віды раслін, дзе параўнаўча багаты жывёльны свет, і наогул захаваць тэрыторыі, непаўторныя ў ландшафтных адносінах. У мэтах далейшага ўдасканалення сістэмы ахоўваемых тэрыторый у нашай рэспубліцы распрацавана схема рацыянальнага іх размяшчэння на перспектыву.

Вядома, што разнастайны раслінны і жывёльны свет на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца пад пастаянным інтэнсіўным уплывам гаспадарчай дзейнасці чалавека. Цяпер у рэспубліцы, можна сказаць, амаль не захаваліся некранутыя куткі прыроды.

На тэрыторыі БССР ёсць два запаведнікі — Бярэзінскі біясферны і Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны, а таксама запаведна-паляўнічая гаспадарка — Белавежская пушча. Плошча іх ўсяго 1,1 працэнта тэрыторыі рэспублікі. У той жа час, у ГДР, Югаславіі, Чэхаславакіі, Венгрыі запаведныя тэрыторыі складаюць па 2,4—6,4 працэнта. Да таго ж, запаведныя тэрыторыі рэспублікі размяшчаюцца ў паўночнай, паўднёвай і заходняй частках БССР і не ахопліваюць усіх лесараслінных зон, тыповых для Беларусі. Вось чаму ўзнікае неабходнасць арганізацыі комплекснага ландшафтнага запаведніка ў цэнтральнай частцы БССР, які быў бы размешчаны ў Налібоцкім лесарастучым раёне.

Вернемся крыху назад. Адным з першых ахоўваемых аб'ектаў на тэрыторыі Налібоцкай пушчы быў лясны рэзерват «Кромань», які быў утвораны пры Польшчы ў 1928 годзе і ўключаў возера Кромань і лясны масіў на яго берагах. У 1940 годзе на яго базе створаны Вялаўскі дзяржаўны запаведнік плошчай 375 гектараў. У час нямецкай акупацыі запаведнік быў разбураны. Пасля вайны ў 1945 годзе плошча запаведніка была расшырана да 4139 гектараў, а праз чатыры гады — да 13,6 тысячы гектара. На жаль, у 1951 годзе запаведнік быў закрыты, а ў 1960 годзе, як сказана вышэй, арганізаваны Налібоцкі паляўнічы заказнік.

Значыць, яшчэ шэсцьдзесят гадоў назад была звернута ўвага на Налібоцкую пушчу, рабіліся спробы захаваць яе багаты раслінны і жывёльны свет.

Можна пэўна сказаць, што размешчаны ў басейне Нёмана гэты прыродны комплекс найбольш поўна адлюстроўвае ландшафт, флору і фаўну цэнтральнай часткі рэспублікі. Захаванне ландшафтаў і біягеацэнозаў у гэтым раёне мае вялікую цікавасць для навукі.

Сапраўды, у пушчы багата прадстаўлена лясная, лугавая, балотная і водная расліннасць. У фларыстычных адносінах Налібоцкая пушча не ўступае Белавежы. Некаторых відаў раслін тут нават больш, чым у Белавежы. Па звестках вучоных, у Налібоцкай пушчы налічваецца 820 відаў раслін, у тым ліку чатыры віды, занесеныя ў Чырвоную кнігу СССР, і 26 відаў — у Чырвоную кнігу БССР. Апрача таго, у пушчы знойдзены сем новых для флоры відаў.

Багаты раслінны свет, чаргаванне пераходных, вярховых і нізінных балот, густая сетка рэк ствараюць спрыяльныя ўмовы для жыцця жывёл. Напрыклад, па падліках Беларускага лесаўпарадкавальнага прадпрыемства ў Налібоцкім паляўнічым заказніку жыве 440 ласёў, 255 аленяў, 360 дзікоў, 130 чырвоных лісаў, 140 куніц, 300 баброў, 15

**(Заканчэнне на стар. 14—15).**



Кветкі да надмагільнага помніка песняру.

**28 чэрвеня ў дзень памяці народнага песняра Янкі Купалы да магілы яго на Вайсковых могілках у Мінску прыйшлі вядомыя пісьменнікі, супрацоўнікі Літаратурнага музея Янкі Купалы, усе тыя, для каго і сёння жыве шчырае слова паэта, дорага яго імя. Яны ўсклалі да надмагільнага помніка кветкі.**

## КУПАЛАЎЦЫ—У ВІЛЬНЮСЕ

**2 ліпеня ў Вільнюсе спектаклем «Мудрамер» па сатырычнай камедыі М. Матукоўскага пачаліся гастролі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Міністр культуры Літоўскай ССР І. Белініс і міністр культуры БССР Ю. Міхневіч, якія выступілі на адкрыцці гастроляў, падкрэслілі, што першы прыезд купалаўскага тэатра ў Вільнюс—значная падзея ў летапісе беларуска-літоўскіх міжнацыянальных культурных зносін, карэнні якіх ідуць у глыбокую гісторыю.**

**Купалаўцы пакажуць сем сваіх лепшых спектакляў, чатыры з якіх пастаўлены па творах беларускіх драматургаў. Пад час гастроляў запланаваны ўрачыстыя ўскладанні кветак да дома, дзе жыў Янка Купала і да мемарыяльнай пліты на месцы пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага.**

**Адбудуцца сустрэчы ў працоўных калектывах, у Вільнюскім клубе аматараў беларускай народнай творчасці «Сябры».**

**В. НІКІФАРОВІЧ.**

(Вільнюс, па тэлефоне).

## ЮБІЛЕЙНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ

**Урачыстасці ў гонар шырока адзначаемага ва ўсім свеце 1000-годдзя хрышчэння Русі адбыліся ў Мінску. На юбілейныя мерапрыемствы ў сталіцу рэспублікі прыбылі прадстаўнікі духавенства рускай праваслаўнай царквы, розных цэркваў і рэлігійных арганізацый рада зарубежных краін, ганаровыя госці. 4 ліпеня яны азнаёміліся з горадам і яго славутымі мясцінамі, наведалі Мінскі кафедральны сабор і храм Аляксандра Неўскага, нанеслі візіт у Мінскае епархіяльнае ўпраўленне.**

**5 ліпеня адбылася паездка ў мемарыяльны комплекс «Хатынь». Затым у Мінскім кафедральным саборы прайшоў урачысты малебен.**

**Удзельнікі святкаванняў усклалі вянок і кветкі да абеліска «Мінск — горад-герой».**

**Вечарам у Дзяржаўным ордэна Леніна акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адбыўся ўрачысты акт, прысвечаны 1000-годдзю хрышчэння Русі.**

**Затым адбыўся святочны канцэрт з удзелам вядучых майстроў мастацтваў рэспублікі.**

**На ўрачыстым акце прысутнічалі намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. А. Мікуліч, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР В. І. Крыцкі.**

### ХОРМАЙСТРУ В. У. РОЎДУ ПАСЛЯ КАНЦЭРТА Ў ГОНАР 1000-ГОДДЗЯ ХРЫШЧЭННЯ РУСІ

**Маэстра! Ваш канцэрт быў небывалы!**
**І я сказаць на цэлы свет гатоў,**
**Што гэты боскі спеў да гэтай залы**
**Вы неслі ў сэрцы тысячу гадоў.**

**Відаць, сам князь-хрысціцель Уладзімір**
**На творчы подзвіг Вас багаславіў.**
**Усё, што лёс судзіў спазнаць Радзіме, —**
**Ваш хор цудоўны ў гуках ажывіў.**

**Яшчэ скажу Вам з ісцінай у згодзе:**
**Не сумняваюся цяпер нічуць,**
**Што побач з Вамі ўсё тысячагоддзе**
**І я ішоў, каб гэты спеў пачуць.**

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

5. 7. 1988 г.

# КНІГАПІС




І. НАВУМЕНКА. Смутак белых начэй. Аповесці, раман. Аўтарызаваны пераклад з беларускай. М., «Известия», 1988.

**Штогод у «Бібліятэцы «Дружбы народов» выходзіць пятнаццаць кніг. Сёлета гэты своеасаблівы збор твораў шматнацыянальнай савецкай літаратуры папоўніўся кнігай Івана Навуменкі «Смутак белых начэй». Акрамя аднайменнага рамана, ў ёй змешчаны аповесці «Апошняя восень», «Развітанне ў Кавальцах», «Замець жаўталісця» і іншыя. Пераклад на рускую мову Л. Салаўя, А. Астроўскага, М. Гарбачова, В. Эльківа, К. Дабравольскай, Р. Веташкінай, Э. Карпачова.**




А. ПЕТРАШКЕВІЧ. Соль. П'есы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**П'есы Алеся Петрашкевіча — дынамічныя, актуальныя па свайму гучанню. У гэтым зможа пераканацца кожны, хто возьме ў рукі кнігу «Соль», у якой змешчаны драмы «Соль», «У спадчыну — жыццё», «Мост упоперак ракі», гістарычная хроніка «Змова», трагедыя «Гора і слава (Русь Кіеўская)», сатырычная камедыя «Злыдзень» і фантасмагорыя «Куды ноч, туды сон».**




М. ГІЛЬ. Кім і Валерыя. Аповесці і апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**У кнізе змешчаны аповесці Міколы Гіля «Прагал» і «Кім і Валерыя», апавяданні «Праменьчык святла», «Пяць нарзанных ваннаў», «Аднойчы ўбачыш у натоўпе...», «Слоік вады з Міхалкавай крыніцы». Пісьменнік раскрывае ўнутраны свет нашых сучаснікаў, узнімае свой голас супраць мяшчанства, *прыстасаванства і заспаноенасці.***

**Рэдакцыя не збіралася працягваць якім-небудзь чынам палеміку з С. Букчыным, у прыватнасці, рэагаваць на яго тэрмінова «згатаваны» і тут жа, звышаператыўна «ціснуты» ў той жа «Советской Белоруссии» опус з крыкліва-павучальным «Жыць трэба чэсна!». Выступленне гэтае, змест якога складаюць знаёмая ўжо нам імітацыя грамадскай заклапочанасці, некалькі слоўных выкрутасаў і лагічных трукаў ды яшчэ два-тры зняважлівыя выпады супраць штотыднёвіка, наглядна паказвае: не той выпадак, калі ёсць сэнс палемізаваць, не тая спрэчка, у якой нараджаецца ісціна, ад якой выйграе справа. Гучна заклікаючы іншых вучыцца гуманізму і этыцы, вучыцца пераадольваць «вобраз ворага», наш няўрымслівы апанент дзейнічае сам і заклікае дзейнічаць другіх у «жанры», назвы якому — звядзенне рахункаў, цяжба, ваяўнічасць...**

**Мы, паўтараем, не мелі намеру адказваць, працягваць навязаную нам спрэчку. Ды ўносяць папраўку чытачы, лімаўская пошта. *Прыйшлі водгукі — адзін, другі, трэці... Сярод іх — нататкі навуковага супрацоўніка* Інстытута філасофіі і права АН БССР А. Майсені, якія змяшчаем у скарочаным выглядзе.**

## ВОДГУКІ, ПАЛЕМІКА

# Вясёленькае папуры,

## або Парадоксы «перабудоўчага мыслення»

НЕБЯСПЕКА нядобрай памяці «кампанейшчыны» спакваля падбіраецца і да перабудовы. Само слова «перабудова», заўважым з жалем, ператвараецца проста ў ходкае слоўца — перабудовай клянуцца, ёй *прылюдна прысягаюць на* вернасць, самазабыўна б'ючы пры гэтым сябе ў грудзі: «Я — хлеб перабудовы», «Я — хадзячае сумленне перабудовы», «Я — самы, самы... перабудоўшчык». І пад шумок дэмагагічных прамоў адстойваюць свае ўласныя інтарэсы. (Пра гэта, дарэчы, гаварылася і з трыбуны XIX партканферэнцыі).

Міжволі прыгадваюцца мудрыя ленінскія словы аб тым, што калі часта і без асаблівай патрэбы кідацца любым важкім паняццем, яно ў хуткім часе становіцца *парожняй прыказкай*, штосьці падобным на «дзякуй богу».

Як навучыцца нам тут аддзяляць зерне ад мякіны, якімі фільтрамі затрымліваць прэтэнцыёзную муць і пустую фанабэрыю? Толькі з дапамогай здаровага сэнсу. Аднаўленне здаровага сэнсу, знемагаўшага на працягу дзесяцігоддзяў пад гнётам ідэалагічных догмаў, грамадзянская рэабілітацыя дыялектычнай логікі, што была падменена ідэалагізаванай схаластыкай,—гэта і ёсць, я ўпэўнены, *самае галоўнае і першаснае* ў перабудове інтэлектуальнага жыцця. Мысліць у духу перабудовы—значыць, мысліць канкрэтна, не лунаючы ў эмпірэях і не захапляючыся пустымі абстракцыямі. Мысленне перабудовы — мысленне дзеяння. Ацэньваць *плён працы* пісьменніка, вучонага, публіцыста, журналіста трэба зыходзячы з таго, што прынцыпова новага ён унёс у вырашэнне канкрэтнай праблемы, якая рэальная значнасць яго ідэй.

З гэтых пазіцый і дазволю *сабе зірнуць на* артыкул С. Букчына «Перабудова — наш лёс» («Советская Белоруссия», 7 чэрвеня 1988 г.). Ужо назва і памеры артыкула гавораць за тое, што задумваўся ён як праграмнае выступленне, нешта накшталт маніфеста «здаровых інтэлектуальных сіл рэспублікі», якія, па сцвярджэнні самога С. Букчына, асаблівай актыўнасці на рысталішчы перабудовы дагэтуль не праявілі.

Заяўка, што і казаць, зроблена вунь якая. Але чым далей чытаеш артыкул, тым больш пераконваешся, што яна так і засталася нерэалізаванай.

Не будзем, аднак, паддавацца настрою высакамернага крытыканства і тым самым прыпадабняцца да самога аўтара. Дзеля аб'ектыўнасці прызнаем, што праблемы, якія называе ў сваім артыкуле С. Букчын, — засілле інтэлектуальнай шэрасці ў грамадскіх навуках, нізкі культурны ўзровень нашых «генералаў ад культуры», разрыў паміж духоўным жыццём у «цэнтры» і «на перыферыі», сімптомы «квасного патрыятызму», — праблемы рэальныя і вострыя. Але які падыход да гэтых праблем у артыкуле, што прапануецца нібыта дзеля таго, каб зняць іх вастрыню? Ды, бадай, ніякі. Пераважаюць агульныя фразы, прапаведніцкія сентэнцыі, якія пераходзяць у злосць і ваяўнічы сарказм...

Між тым, праблемы гэтыя ўжо называлі — не раз і не два — і раней, да С. Букчына. Ці ж варта ператвараць іх у агульнае месца, у пагалоску? Той самы літаратурны і сацыяльны крытыцызм, які зацята абараняе С. Букчын, патрабуе канкрэтных адрасоў чыноўніцкага бескультур'я, вучонага невуцтва, псеўдапатрыятызму. Але, відаць, С. Букчын, як адэпт «чыстай крытыкі» — крытыкі ў імя крытыкі, у чым пераконвае і апошні артыкул, — не дазваляе сабе апускацца да канкрэтнага, зямнога.

Калі верыць крытыку, вядомая публіцыстычная гіпадынамія «сапраўдных інтэлектуалаў» прывяла да трагічнага перакосу ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі, калі на першыя ролі выйшлі кандыдаты і дактары навук з «непрабіваемай «застойнай» закваскай». Мала таго — пачалі яшчэ розуму вучыць. Гэтага цярпець, вядома, нельга. І С. Букчын распачынае франтальнае наступленне на «цёмныя сілы мінулага». З пазіцый глабальнага мыслення, усеабдымным крытычным аглядам С. Букчын хвацка праімчаўся па ўсіх сферах перабудовы — ураз расправіўся з ненавіснай бюракратыяй, успомніў добрым словам Івана Худэнку, аддаў належнае працам эканаміста-аграрніка Чаянава, адзіным махам забіў асінавы кол у сумнавядомы артыкул Ніны Андрэевай, пусціў пад адхон Сталіна і сталіншчыну і гэтак далей. Не абышлося і без аналізу міжнароднага становішча. Сюжэт з міжнароднага жыцця — несэсэр, зусім, як у Ільфа і Пятрова на мітынгу ў Старгорадзе з нагоды адкрыцця трамвая. Адным словам, *атрымалася вясёленькае папуры на тэму перабудовы.* Ці, дакладней кажучы, перапеў вядомых усім ісцін і пералік агульнавядомых рэчаў, узятых з саюзнага друку. Як манахперапісчык, С. Букчын шчыруе над хронікай інтэлектуальнага жыцця ў дні перабудовы. І — нічога свайго.

Праблему «культу асобы» крытык вырашае ў лепшых традыцыях антычнай трагедыі — развязку прыносіць «бог з машыны», апрануты ў традыцыйны сталінскі фрэнч. У Сталіне, *маўляў, уся справа.*

Гісторыя, не запытаўшы ў нас дазволу, паставіла Сталіна і Гітлера разам. Яны побач таму, што абодва растапталі агульначалавечую мараль, хоць і зрабілі гэта ў імя розных ідэй і мэт. Іх імёны сталі праклятымі сімваламі часу, народная памяць ніколі не даруе ім мільёны загубленых жыццяў. Але, як Гітлер не нарадзіў на свет фашызм, а, наадварот, фашызм знайшоў у асобе Гітлера паслухмянага выканаўцу, так і сталінізм, які разлучыў сацыялізм з ленінскім гуманізмам, нельга выводзіць са Сталіна. Хоць, вядома, ніяк нельга атаясамліваць фашызм і сталінізм.

Але дарэмна выкладаць С. Букчыну навуковае разуменне гістарычнага працэсу, ролі ў ім асобных дзеячаў і народных мас; марна даказваць, што ў той час, калі Сталін уплываў і *мяняў ход падзей, ён сам і іншыя,* у тым ліку і людзі з легендарнай плеяды рэвалюцыянераў-бальшавікоў, самі заставаліся ў палоне часу, ва ўладзе сваёй эпохі; дарэмна пералічваць аб'ектыўныя фактары, якія прывялі да пад'ёму і *запанавання «культу асобы».* Усё дарэмна. С. Букчын ніякія доказы не ўспрымае: ягонае «герметычнае мысленне» цалкам загорнута ў прадузятасць. Відаць, суджана крытыку так і застацца на ўзроўні спрошчана-абывацельскага разумення «культу асобы», хоць саюзны друк (на які, дарэчы, так часта ківае С. Букчын) даўно пераадолеў ужо яго прыцяжэнне. Яму, С. Букчыну, варта паразважаць як след над тым, што «для яго пішуць... гісторык Ю. Афанасьеў, публіцыст Ф. Бурлацкі». Ды вось іронія. С. Букчын у гэтым жа артыкуле без ценю сумнення бярэцца дакараць іншых у «легкадумным пырханні па крывавай тэме» 30-х гадоў і ў прымітыўнасці аналізу. Не разумею толькі, якой глыбіні аналізу дамагаецца С. Букчын? На ўзроўні асабістага разумення «культу асобы»?

І ўсё ж, дзеля чаго спатрэбілася С. Букчыну паўтараць агульнавядомае, тое, што стала сімвалам перабудовы? Адзначаецца своеасаблівы рытуал прычашчэння да веры. У простым пералічэнні адметных фактаў ёсць свой разлік — С. Букчын уручае чытачу вярыцельныя граматы як надзвычайны і паўнамоцны пасол перабудовы, каб потым ад яе імя гаварыць. Маўляў, вось цяпер, пад сцягам перабудовы, можна і ўдарыць па ўсіх іншаверцах-антыперабудоўшчыках. «Вялікая, непамерна вялікая цана нашай перабудовы. Дык няўжо зноў аддадзім, зноў адступім?» Гэта ўжо сігнал «да бою».

Пачынаецца другая дзея артыкула, у якой усё ідзе, як у *незабыўнай «мяцежнай» паэме* Сцяпана Трафімавіча Верхавенскага з «Бесаў», дзе «ўсе спяваюць без перапынку, а калі размаўляюць, дык неяк усё сварацца, але зноў жа з адценнем вышэйшага значэння». Для падтрымання гэтага самага «адцення вышэйшага значэння» С. Букчын раз за разам кліча на падмогу класікаў. У самім звароце да класікаў, зразумела, нічога кепскага няма, але ж С. Букчын турбуе карыфеяў не дзеля таго, каб пазычыць у іх мудрасці ці велічы духу. Іх імёнамі ён уцяжарвае абух, які зараз жа апускаецца на галовы апанентаў. Паспрабуй, скажы што-небудзь супраць класікаў! Дакладней, не супраць іх, а супраць таго, што шаноўны крытык за іх гаворыць. «На жаль, — усклікае ён гнеўна, — ёсць у нас пісьменнікі, якія прайшлі міма маральных пошукаў Дастаеўскага, Чэхава, Талстога, пісьменнікі, якія ставяць знак роўнасці паміж Пралеткультам і «фундаментальным ісламам» і дэманструюць няведанне не толькі вытокаў і складанасцей развіцця пралетарскай культуры як часткі рабочага руху ў Еўропе, але і гісторыі савецкай літаратуры». Узор акультуранай бязглуздзіцы «з адценнем вышэйшага значэння»! Сам вывад — «прайшлі міма маральных пошукаў Дастаеўскага, Чэхава і Талстога» — ні што іншае, як прэтэнцыёзная недарэчнасць, адлітая, зноў-такі, у форме абуха. Гэтым абухом ён і лупіць па В. Дашкевічу (гаворка ідзе аб ягоным звяздоўскім артыкуле «Сваё і чужое») Чым жа ўгнявіў В. Дашкевіч паважанага крытыка? Тым, што *паводле слоў С. Букчына,* той з іроніяй гаворыць пра «любоў да ўсяго чалавецтва», пра «добрыя намеры, што прадыктаваны ідэаламі гуманізму і асветы»; тым, што не ўвабраў у сябе «шырокую ідэю чалавецтва», якую адстойваў у свой час Пляханаў, *прапаведвалі мыслі*целі-ўтапісты Сен-Сімон, Фур'е, Оўэн; тым, што не ўспрыняў ленінскага палажэння аб прыярытэце агульначалавечага над класавым. Адным словам, страшэнны грэх узяў В. Дашкевіч на душу. Ды на самой справе гэты грэх вынікае толькі з «шырокай інтэрпрэтацыі» крытыкам артыкула В. Дашкевіча. Пісьменнік не адмаўляе «шырокую ідэю чалавецтва» — у артыкуле В. Дашкевіча гэтага няма. Адзінае, што там ёсць, дык гэта тое, што пісьменнік зусім справядліва дакарае тых, хто, адстойваючы «агульначалавечае», «планетарнае», аддае забыццю нацыянальнае, патрыятычнае, хто пацяшаецца над любоўю да роднага краю, роднага кута. Напрошваецца нечаканая паралель. У 30-я гады барацьбіты за сталінскую ідэю сацыялізму ў асобе следчых патрабавалі: «Адрачыся ад маці-бацькі ў імя шчасця ўсіх працоўных і росквіту краіны». Сёння «інтэлектуалы», якіх ахапіла ўсяленская прачуласць, ледзь не заклікаюць адрачыся ад сваёй малой радзімы, выціснуць з сябе «правінцыяльны патрыятызм» і ўзлюбіць замест гэтага ўвесь свет. Няўжо незразумела, што супрацьпастаўленне кроўнага, роднага—краіне, радзімы—усяму свету ёсць само па сабе страшэннае святатацтва? Што да любві да ўсяго чалавецтва можна прыйсці толькі праз любоў да блізкага свайго, да сваёй роднай зямлі? Гэта і ёсць маральны імператыў Дастаеўскага, Чэхава, Талстога, які С. Букчын чамусьці ігнаруе на гэты раз.

Ідэя «агульначалавечага», якая адлюстроўвае ўсведамленне нашай прыналежнасці да роду людскога, да глабальнай зямной цывілізацыі, не павінна адмаўляць ці колькі-небудзь прыніжаць ідэю «свайго» — мясцовага, родавага, нацыянальнага, айчыннага. Усё гэта павінна ўжывацца адно з другім, суісnаваць на розных узроўнях развітой свядомасці. С. Букчын аспрэчвае падзел на «сваё» і «чужое» ў наш час. Не, не гэта нам патрэбна, «цяпер будзем вучыцца іншаму», — заяўляе крытык. І тут жа падма-

(Заканчэнне на стар. 6).

# Вясёленькае папуры,
## або Парадоксы «перабудоўчага мыслення»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

цоўвае сваю заяву палажэннем з артыкула ў «Правде», дзе гаворыцца аб неабходнасці пераадольвання «вобраза ворага» ў адносінах да Злучаных Штатаў. Ну, а якая тут сувязь з падзелам на «сваё» і «чужое»? Хіба ж пераадольванне «вобраза ворага» вядзе да нівеліроўкі «свайго» і «чужога»? Гэта ж — абавязковая передумова ўстанаўлення нармальных, цывілізаваных адносін паміж дзяржавамі, вяртання да паўнамоцнай ідэі «мірнага суіснавання», якая перш за ўсё прадугледжвае **прызнанне і павагу** да аб'ектыўна існуючых адрозненняў. Дагматызаваная, талмудысцкая ідэалогія якраз і пазбаўляла народы і краіны права на «сваё» — сваю нацыянальную культуру і ідэалогію, свой лад жыцця, падганяючы ўсю разнастайнасць існавання пад адзіны шаблон.

У адным мае рацыю С. Букчын — сёння мала падзяляць паміж «сваім» і «чужым», мала трымацца і шанаваць «сваё», трэба выхоўваць у сабе таксама разуменне і цярпімасць да «чужога».

Пераасэнсаванне ідзе і ў галіне гісторыі культурнага будаўніцтва ў нашай краіне. З вышынь рэтраспектывы мы бачым, якую згубную ролю адыграла ў станаўленні маладой савецкай культуры «пралеткультаўская філасофія» і яе «ачагі» — рознага роду рапаўскія і пралеткультаўскія арганізацыі. Але пачакайце з прысудам, спяшаецца на дапамогу Пралеткульту С. Букчын. У надзвычай туманнай і непралазнай фразе ён прыраўняў Пралеткульт да пралетарскай культуры, зрабіў яго законнанароджаным дзіцем рабочага руху ў Еўропе. Відавочнае — неверагоднае! Пралеткульт — гэты звыродлівы «радыёактыўны мутант» пралетарскай культуры, яе тупіковая галінка, і раптам, па жаданні С. Букчына, арганічна вырастае з еўрапейскага рабочага руху. Дазволю сабе пераадрасаваць шаноўнаму крытыку словы, якія ў свой час Ленін сказаў Бухарыну ў дачыненні да «пралеткультуры»: «Ну вас з усёй вашай лухтой». Крытык і літаратуразнавец С. Букчын і сёння не бачыць прынцыповай розніцы паміж сапраўднай пралетарскай культурай, што ўвабрала ў сябе ўсё найлепшае ад агульначалавечай дэмакратычнай культуры, і вузкалобым Пралеткультам, які выскачыў, паводле ленінскіх слоў, «невядома адкуль» і які адмаўляў усю папярэднюю культуру.

І што адметна: С. Букчын заступіўся за зганьбаваны гонар Пралеткульту ў тым жа абзацы, дзе адстойвае «шырокую ідэю чалавецтва». Ды яшчэ з пракурорскай строгасцю лупцуе невуцтва, што «масціцца там, дзе павінны панаваць веды і гістарычны падыход». Сапраўды, «Гарацыо, на свеце шмат таго, што вашай філасофіі не снілася». Можна толькі падзівіцца, як спрытна С. Букчын мірыць непрымірымае, сумяшчае несумяшчальнае. Праўда, памочнікі ў яго хоць куды — лагічныя парадоксы і адкрытыя ляпсусы. «Расшчэпленая свядомасць» крытыка фарміруе двухаблічную ісціну — «для сябе» і «для іншых». Прынцыпы — справядлівыя і ўзвышаныя — гучна дэкларуюцца, каб потым спакваля іх парушаць. Яны, як супінатар, што аблягчае клопаты з плоскаступнёвасцю.

Вось С. Букчын заяўляе: «Перабудова павінна вызначыць цану кожнаму». Усё добра і правільна. Застаецца дадаць — у тым ліку і дзеячам мінулага. Дык чаму ж крытык крыху пазней сам адыходзіць ад абвешчанага прынцыпу і накладвае табу на ацэнку дзейнасці лідэра РАППа Авербаха? Зноў жа, як працяг той жа тэмы: на словах С. Букчын рашуча падтрымлівае кампанію па аднаўленні поўнай праўды пра трагедыю 30-х гадоў. Ён піша: «Усё заканамерна: трэба выкрываць нягоднікаў, адкрываць мінулае». Але не паспела высахнуць чарніла на гэтым правільным радку, як С. Букчын услед дасылае папрок аўтару артыкула «Паплечнікі» (значыць, мне. — **А. М.**) за тое, што ён напісаў у стылі, «часткова напамінаючым той, якім пісаліся «кляймуючыя» артыкулы часоў Берыі і Цанавы», наступную фразу: «У гэты час у рэспубліцы арудаваў Берман». Слова «арудаваць», адзначанае ў тлумачальных слоўніках як «распараджацца, дзейнічаць (неадабр.), выклікала ў крытыка алергію — не інтэлігентна, маўляў, такімі крыўднымі словамі кідацца. А як жа быць з «выкрыццём нягоднікаў», якое хвілінай раней так горача адстойваў С. Букчын? Што ж збянтэжыла крытыка, што выклікала ў ягонай душы, як ён сам піша, растучае супраціўленне? З далейшых мудрагелістых разважанняў крытыка, як і з прыведзенай ім надзвычай дасціпнай цытаты з Уласа Дарашэвіча (цытата на цытаце!), вынікае, што асаблівай персанальнай адказнасці за Берманам, як і за Цанавай, не значыцца, што не ў іх справа, а справа ў «сітуацыі», калі нормы закона і маралі быццам бы растварыліся». Вось дык логіка! Вось дык пазіцыя! Вось дык вернасць маральным ідэалам класікаў, якімі С. Букчын б'е іншых.

У артыкуле С. Букчына, як у камеры-абскуры, прынцыпы ходзяць на галовах. Так, вядома, зручней. Не спяшайцеся, напрыклад, спакусіцца прамовамі крытыка наконт «публічнасці абмеркавання». Гэта ісціна «для іншых». Як гаворыць вядомае выказванне, калі б геаметрычныя аксіёмы закраналі інтарэсы людзей, яны б, пэўна, абвяргаліся. Як толькі справа даходзіць да абмеркавання асабістых прац С. Букчына, ён адразу бачыць у гэтым несумленную змову і гатовы ўраз з гэтай «дэмакратыяй» пакончыць. Ні даць, ні ўзяць — чэхаўскі Ачумелаў: то ён загадае знішчыць беднага сабачку («ён, напэўна, шалёны»), то прылашчыць і пагуляе з ім («сабачка што трэба»).

А ўвогуле, лёсу крытыка С. Букчына не пазайздросціш — з вялікім цярпеннем, самаахвярна нясе ён свой крыж скрозь церні «духоўнага правінцыялізму» — «мястэчковага», «хутарскога» і іншага. У «духоўнай правінцыі» С. Букчын як рымскі праконсул, што прышчапляў тубыльцам дасягненні цывілізацыі «вечнага горада». Эпітэт «правінцыяльны» стаў вярхоўнай страсцю крытыка, апошнім аргументам у яго літаратурным вердыкце. Нават у выказванні пісьменніка Г. Далідовіча аб тым, што нельга ператвараць крытыку ў спаборніцтва, «хто больш зняважліва пхне родную літаратуру», і тут С. Букчын угледзеў «правінцыяльны патрыятызм». Магчыма, таму, што прыняў гэтую заўвагу на асабісты рахунак? Што ж, не без падстаў. Крытыку, які правільна заклікае пісьменнікаў з павагай адносіцца да чытача, не пашкодзіла б і самому трымацца такіх жа этычных норм у адносінах да сваіх калег-літаратараў. Гэтаму вучыць сапраўды руская дэмакратычная традыцыя.

Прачытаеш артыкул С. Букчына «Перабудова — наш лёс», які жывым дакорам супрацьстаіць усяму «правінцыяльнаму», і самі па сабе напрошваюцца словы захаплення ...адважным палётам думкі аўтара. І прыгадваецца «Стоўп» Салтыкова-Шчадрына: «Башка, брат, у цябе, Осіп Іванавіч! Не тут бы, не ў глухамані б табе сядзець! Міністрам бы табе быць трэба!» А ўчытаешся глыбей, паблукаеш з аўтарам у цясноце яго гучных слоў, бясконцых цытат і запазычаных вобразаў, і зноў прыходзіць на памяць класік: «Кончана. З нясцерпным болем у сэрцы я павінен быў сказаць сабе: «Дзеруноў не стоўп. Але дзе шукаць «стаўпоў», калі нават Осіп Іваныч не стоўп?..»

На такія вось разважанні навёў артыкул С. Букчына. І няхай у яго аўтара не застанецца сумненняў—ніхто тут не робіць замаху на прынцыпы і ідэі, што сталі духам, кроўю і плоццю перабудовы; ніхто не вядзе падкоп пад літаратурны і сацыяльны крытыцызм — неабходную норму грамадскага жыцця. Але ж перабудове патрэбен здаровы крытыцызм, трэба, каб яе прынцыпы не толькі дэклараваліся, але каб імі яшчэ і кіраваліся, пазбягаючы тым самым эфекту «расшчэпленай свядомасці».

Пакуль я заканчваў працу над гэтымі нататкамі, С. Букчын паспеў выступіць яшчэ раз — надрукаваць у «Советской Белоруссии» за 28 чэрвеня 1988 г. адказ на рэпліку А. Ганчарова ў «ЛіМе». Крытык катэгарычна пратэстуе супраць нібыта абразлівага тону рэплікі, звыкла сыпле апаненту папрокі ў недасведчанасці і нават паспявае выкрыць «ілжывых патрыётаў», якія, мабыць, культывуюць у пісьменніцкім асяроддзі не «той», не «букчынскі» патрыятызм (дарэчы, цікава было б уведаць, як разумее С. Букчын «той» «сапраўдны» патрыятызм). І зноў, вядома, поўная пераканаласць у асабістай інтэлектуальнай перавазе: вуснамі Сямёна Букчына гаворыць ісціна. Вось толькі адной рэчы ніяк не хоча зразумець шаноўны крытык: усё тое, што ён сам бязлітасна і праведна лупцуе — хібы логікі і стылю, парушэнне этычных нормаў літаратурна-грамадскай дыскусіі, тая ж недасведчанасць — ёсць люстэркавы адбітак ягоных асабістых хібаў, што рэпліка А. Ганчарова (як шмат чаго і ў маім артыкуле) была напісана ў парадыйным стылі, які перадае «арыгінальна-крытычны» стыль самога С. Букчына. Дык ці не прыйшоў час, Сямён Уладзіміравіч, «на себя оборотиться»? У гэтым было б больш сэнсу, чым крычаць-павучаць: «Трэба жыць чэсна!» Бо сапраўды перабудова пачынаецца з нас саміх.

Анатоль **МАЙСЕНЯ**,
кандыдат філасофскіх навук.
г. Мінск.

## ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

**Выступленні вядомага даследчыка гісторыі Беларусі Валянціна Грыцкевіча, у прыватнасці, яго артыкул «Гісторыя — шматжыльны провад...» («ЛіМ», 26 лютага 1988 г.), выклікалі вялікую цікавасць нашых чытачоў.**

**Штотыднёвік змяшчае сёння частку водгукаў.**

# ЧАМУ ТАК АДБЫЛОСЯ?..

Мы займаемся гісторыяй Украіны XVI—XVIII стст., г. зн. таго перыяду, калі значная частка ўкраінскіх зямель, як і ўся Беларусь, знаходзілася пад уладай магнацка-шляхецкай Рэчы Паспалітай, і маем дастаткова падстаў для таго, каб прызнаць поўную справядлівасць пераважнай большасці палажэнняў артыкула В. Грыцкевіча. Нямала з іх можна цалкам аднесці і да сітуацыі, якая склалася ў вывучэнні гісторыі Украіны перыяду феадалізму.

Прачытаўшы артыкул В. Грыцкевіча, зноў задумваешся над пытаннем: чаму так адбылося? Чаму Беларусь з яе багацейшым і слаўным мінулым па сутнасці не мае да цяперашняга часу паўнацэннай гісторыі 500-гадовага перыяду свайго існавання (XIV—XVIII стст.)? Што трэба зрабіць для таго, каб гістарычная навука ў БССР была ўзнята на належны ўзровень? Хоць сам В. Грыцкевіч і адказаў на некаторыя з гэтых пытанняў, нам са свайго боку хацелася б адзначыць некаторыя факты, якія запавольваюць развіццё гістарычнай навукі ў Беларусі і негатыўна ўплываюць на працэс патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання ў рэспубліцы.

Перш за ўсё здзіўляе той факт, што ў Беларусі — савецкай рэспубліцы, якая ўносіць важкі ўклад у камуністычнае будаўніцтва ў СССР,— няма ніводнага гістарычнага часопіса. Вядома, у некаторай ступе-

# ШЛЯХАМ АБ'ЕКТЫЎНАГА ВЫВУЧЭННЯ

У сваім артыкуле «Гісторыя — шматжыльны провад...» («ЛіМ», 26.II.1988) і ў апублікаванай некалькі месяцаў назад рэцэнзіі на падручнік па гісторыі БССР для ВНУ (там жа, 14.VIII.1987) ленінградскі гісторык В. Грыцкевіч з трывогай піша пра многія набалелыя праблемы беларускай гістарычнай навукі.

**Магчыма, не ўсе папрокі аўтара ў яе адрас справядлівыя. Несумненна, за мінулыя гады ў рэспубліцы нямала зроблена для вывучэння гісторыі роднага краю, у тым ліку і такіх яе важных старонак, як гісторыя феадальных гарадоў (ім прысвечаны цікавыя манаграфіі З. Ю. Капыскага, А. П. Грыцкевіча), сялянства (работы В. І. Мялешкі і шэрагу іншых аўтараў), праблемы антыфеадальнай барацьбы. Між іншым, і сам В. Грыцкевіч прызнае, што «сацыяльна-эканамічная гісторыя Беларусі вывучана даволі грунтоўна». Прыкметныя поспехі дасягнуты ў вывучэнні беларускай феадальнай культуры, летапісання (даследаванні В. А. Чамярыцкага, М. М. Улашчына). Насуперак сцвярджэнню В. Грыцкевіча, беларускія гісторыкі (разам са сваімі рускімі, польскімі, літоўскімі, украінскімі калегамі) прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да выдання Літоўскай метрыкі — кніг дзяржаўнай канцылярыі Вялікага княства Літоўскага, якія змяшчаюць самы багаты матэрыял і па гісторыі беларускіх зямель. Прадстаўнікі Інстытута гісторыі АН БССР уваходзяць у склад рэдкалегіі гэтага выдання, удзельнічалі ў міжрэспубліканскай навуковай канферэнцыі па Літоўскай метрыцы, якая адбылася ў красавіку ў Вільнюсе.**

Але нельга не пагадзіцца з В. Грыцкевічам, калі ён гаворыць аб неабходнасці развіцця гістарычнай навукі ў рэспубліцы на ўзроўні сучасных магчымасцей і патрабаванняў.

Крытычны — у духу нашага часу — погляд на гістарыяграфію папярэдніх дзесяцігоддзяў патрабуе ад савецкіх гісторыкаў, ад усіх нас, у тым ліку і ад вучоных Беларусі, пераацэнкі многіх з'яў мінулага, перагляду многіх стэрэатыпаў і схем, якія перашкаджалі развіццю гістарычных даследаванняў у шэрагу абласцей. У значнай ступені гэта датычыць і гісторыі Беларусі ў перыяд феадалізму.

Адной з найбольш вострых праблем з'яўляецца тут ацэнка ролі Вялікага княства Літоўскага ў развіцці беларускага народа, яго дзяржаўнасці.

Як вядома, на працягу XIII—XVIII стст. землі Беларусі развіваліся ў складзе Вялікага княстве Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (як афіцыйна называлася гэтая шматнацыянальная дзяржава са сталіцай у Вільнюсе). Тут канчаткова аформілася беларуская феадальная народнасць, тут актыўна развіваліся беларуская культура, літаратура, кнігадрукаванне. У гэтай дзяржаве старабеларуская мова да канца XVII ст. заставалася мовай дзяржаўных дакументаў, заканадаўчых помнікаў, была мовай летапісаў. З гэтай дзяржавай звязана пяць стагоддзяў беларускай гісторыі.

Уваходжанне беларускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага было вынікам кампрамісу, пагаднення літоўскіх князёў з мясцовым баярствам і гарадамі. Як падкрэсліваў Ф. Энгельс: «У той час, калі Вялікарасія трапіла пад мангольскае іга, Беларусь і Маларасія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да так званага Літоўскага княства». Шэраг гісторыкаў мяркуе, што ў XIII—XIV стст. Вільня з'яўлялася адным з патэнцыяльных цэнтраў аб'яднання ўсіх старажытнарускіх зямель, а правячыя колы Вялікага княства Літоўскага, якія адчулі моцны ўплыў усходнеславянскай культуры, «адстойвалі агульнарускую праграму» (І. Б. Грэкаў, «Усходняя Еўропа і ўпадак Залатой Арды (на мяжы XIV—XV стст.)». М., 1976, с. 49). У канчатковым выніку землі Паўночна-Усходняй Русі аб'ядналіся вакол Масквы.

руку пацiскае...
Коцiцца,
коцiцца
долi арба —
загадзя ёй здаля пагалёкай.
Калi гаспадар з душою раба,
упоравень з iм
уздымаецца лёкай.

●

I ў раннi час, i ў час вячэрнi
Мужы i жонкi дзень пры днi
Выстойваюць цярплiва чэргi
Кiламетровай даўжынi.

Схаваць не ў сiле выгляд посны,
Яны пазiцый не здаюць.
I я пытаю, хто апошнi,
Хаця не знаю, што даюць.

Жадання ўласнага ахвяры,
Мы тоўпiмся ў жывой вадзе,
За крок ад запаветнай мары
Мы топiмся ў сваёй бядзе.

I хоць у чэргаў хвост павiны,
А ногi ў нас цяжэй свiнца,
Мы ўсё-ткi выстаяць павiнны,
Што б там нi стала, — да канца!

I я з упартасцю жалезнай
(Па праўду, а не па шмаццё!)
У чарадзе жыцця даўжэзнай
Гатоў стаяць усё жыццё.

●

Усё яшчэ трошкi смуткую,
Хоць бедаваў калiсьцi.
Ты — за ракой, якую
Мне ўжо не пераплысцi.
Спярша будаваў я лодку,
Каб веславаць у далi.
Але яе ў паводку
Перакулiлi хвалi.

Думаў, яшчэ вярнуся
Я па разведзеным мосце.
Верыў, яшчэ дакрануся
Да берага маладосцi.
У плынi вiры кружаць:
Я — злева, а ты — справа...
Мне ўжо цябе не адужаць,
Лёсу майго пераправа.
Чую ў душы шматгалоссе:
Было, ды не адбылося.
Стукаю сэрцам у дзверы
Любовi,
Надзеi
I Веры.

●

Навальнiца ў пачатку мая, —
Як вяселле, што ўсiх займае.
Нечувана грымотная вестка:
Гром — жанiх,
А маланка — нявеста!
Бабы ў белым —
Цiкаўныя вiшнi
Цэлым садам на вулiцу выйшлi.
Дрэвы iншыя валам валяць —
Шапацяць, абгаворваюць, хваляць.
— Вы пабачце, якая нявеста!
— З адмысловага злеплена цеста...
— Мусiць, будзе мiлаю жонкаю.
—Толькi талiя надта тонкая...
— Сохнем мы, як аб любым тужым.
— Стане ладнай за добрым мужам...
Каб вясельнае свята адзначыць,
Танец дружна дажджынкi скачуць,
Або ўпрысядкi, або падскокам...
Дол, як бубен, пад звонкiм крокам...
Пашкадуеш, што ты не падлетак,
Той, якi неўпрыкметку гэтак
З дому босы сiгае вонкi —
За дажджынкамi наўздагонкi.
Будзе жыта i будзе пшанiца,
Будзе бохан — кожнаму дому,
Калi ў маi шумiць навальнiца,
Як вяселле маланк' i грому.

— Цi не пра Рыжулю яны гавораць? — сказаў Рыгорка.

— Хiба ж ён чорт? — спытаўся Анцiпка.

— Ён такi слаўны, свойскi, — уставiла Марынка i раптам дадала:

— Можа, зарэзаць яго збiраюцца?

Малыя жахнулiся.

Урэшце выказаў сваю думку i Мiкалай Антонавiч:

— Мы, дарослыя, яшчэ так-гэтак... А вось дзяцей шкода. Сэрца сцiскаецца, калi глядзiш на iх.

Да вайны Мiхей Антонавiч працаваў старшынёй сельсавета. I нiхто яго не звальняў з гэтай пасады. Амаль усе, хто звяртаўся да Мiхея Антонавiча, называлi яго па-ранейшаму: «Таварыш старшыня!.. Мiхей Антонавiч, даражэнькi...»,

— Дык што, як вырашым? — дапытваўся ён цяпер у старых.

— Мабыць, як-небудзь пераб'емся, — нерашуча вымавiў дзед Кандрат. — Вунь ужо Чырвоная Армiя блiзка, перацерпiм да яе прыходу. Дужа ж шкода Рыжулю...

— А я кажу: нажом па горлу — i ўсё! — Дзед Апанас шмаргануў рабром далонi па сваёй шыi.

Тут дзецi не вытрывалi. Гушчар зашумеў, пачуўся трэск ламачча, яны беглi да кухнi навыперадкi, а наперадзе ўсiх Рыгорка, Анцiпка i Марынка... Перабiваючы адно аднаго, закрычалi:

— Мiхей Антонавiч, мiленькi...

— Мы пацерпiм яшчэ, толькi не дазваляйце рэзаць Рыжулю...

— Хутка ж Чырвоная Армiя прыйдзе...

Нiбы ў абшчыпаных пеўнiкаў — гэткiя тонкiя i сiнiя былi шыi ў дзяцей. А лапаткi iх прыкметна адтапырвалiся, быццам нязграбныя крылы ў арлянят, якiя не ўмеюць яшчэ лятаць. У каго да цела прылягала палатняная кашуля, у таго можна было здалёку палiчыць рэбры.

Заклапочаныя вочы Мiхея Антонавiча пасуровелi, упарты падбародак нiбы яшчэ больш выцягнуўся, запалыя, паголеныя шчокi надзьмулiся.

— Ладна, хай будзе па-вашаму, — сказаў ён дзецям, глыбока ўздыхнуўшы.

Сказаў i, не выслухаўшы дзiцячай удзячнасцi, хуценька пакрочыў некуды. У дзеда Кандрата пасвятлеў твар, ён з урачыстым выглядам пераможцы зiрнуў на Апанаса, як бы кажучы: «Во, бачыш, якi чалавек Мiхей — таксама пашкадаваў Рыжулю, а ты — нажом па горлу...»

Мiнуў тыдзень. Дзед Кандрат неяк адлучыўся з лагера, пайшоў з групай партызан на баявое заданне. А Мiхей Антонавiч паклiкаў старога Апанаса i сказаў яму тонам загаду:

—Нiчога не выходзiць, брат. Бяры вiнтоўку i забi Рыжага. Апанас здрыгануўся. Ён згаджаўся з Мiхеем Антонавiчам, але не думаў, што той даручыць гэтую непрыемную справу менавiта яму. Як на яго пасля будуць глядзець дзецi? I што скажа сябра Кандрат? Толькi не паслухацца нельга было — загад.

— Добра, — цiха прамовiў Апанас i падаўся на невялiкi астравок на балоце, дзе пасвiўся Рыжуля.

Прызвычаены да ўзброеных людзей, вол не спалохаўся Апанаса, са сваёй заўсёднай даверлiвасцю падышоў да яго блiзка-блiзка, хоць у таго была вiнтоўка.

— Што ж ты дурненькi, — расчулена загаварыў стары, паляпваючы Рыжулю па натруджанай шыi. — Надышла твая часiна. Iдзi вунь туды, у карчы.

Аднак вол нi на крок не адступiўся ад Апанаса, усё лiзаў цёплым языком шурпатыя пальцы старога. Тады Апанас згарнуў з газеты цыгарку i закурыў, ведаючы, што той не пераносiць тытунёвага дыму. I сапраўды, Рыжуля незадаволена фыркнуў i адбег.

— Вось так i стой, дарагi мой, — прашаптаў Апанас i пачаў цэлiцца ў шырокi лоб вала.

Рыжуля спалохана скокнуў убок.

«Вiдаць, недзе ўжо цэлiлiся ў яго», — падумаў Апанас i тут жа здзiвiўся: вол раптам застыў, як укопаны, уставiўся ў яго вялiкiмi павiльгатнелымi вачыма. Дзеду здалося, што ён вось-вось скажа: «Страляй, калi ўжо рашыўся. Не гэтага я чакаў, прабiраючыся сюды, дадому».

Рука Апанаса самлела, на курок ён не нацiснуў.

Нiзка ўнурыўшы сiвую галаву, на якой жоўтай талеркай адсвечвала лысiна, стары подбежкi памчаўся з астраўка. «Няхай як хоча карае мяне Мiхей Антонавiч, а я не магу забiць Рыжулю, ёсць другiя, з ахвотай справяцца...»

Ажывiўся i вол. Ён тройчы гучна прарыкаў, быццам развiтваўся з гэтымi мясцiнамi. I, восока ўзняўшы свае магутныя рогi, таксама рушыў з астраўка. Паспешлiва, iмклiва. Але неўзабаве наскочыў на партызанскую мiну...

Стары пануры Апанас, калi даведаўся пра смерць Рыжулi, дык гэтак жа, як i дзед Кандрат, ажно слязу пусцiў. Пагаравалi некаторы час i дзецi. А Мiхей Антонавiч неадкладна распарадзiўся, на якiя часткi падзялiць i як размеркаваць валовiну.

Абед з наварыстым крупнiкам i мясам здаўся раскошай. Толькi дзецi, дзед Кандрат i дзед Апанас неяк неахвотна сёрбалi крупнiк. Ад мяса ж яны адмовiлiся наадрэз.

Неўзабаве дачакалiся вызвалення — немцаў прагналi з нашага краю.

Публiкацыя Я. ДАВЫДЗЕНКА.



Мiрскi замак. Фота А. КАЛЯДЫ.

# ВА ЎДЗЯЧНАЙ ПАМЯЦI НАШЧАДКАЎ

АДДЗЕЛ РЭДКАЙ КНIГI БIБЛIЯТЭКI БЕЛДЗЯРЖУНIВЕРСIТЭТА IМЯ У. I. ЛЕНIНА АТРЫМАЎ КАШТОЎНЫ ПАДАРУНАК — ПЯЦЬ АСОБНЫХ АДБIТКАЎ ЛIТАРАТУРАЗНАЎЧЫХ РАБОТ АКАДЭМIКА АН БССР, ЧЛЕНА-КАРЭСПАНДЭНТА АН СССР IВАНА IВАНАВIЧА ЗАМОЦIНА, ВЫДАДЗЕНЫХ ПРЫ ЖЫЦЦI АЎТАРА. ГЭТА ВЫДАННI: «МАСТАЦКАЯ ТВОРЧАСЦЬ Л. Н. ТАЛСТОГА» (1928), «М. БАГДАНОВIЧ. КРЫТЫЧНА-БIЯГРАФIЧНЫ НАРЫС» (1929), «СОРАК ГОД СЛУЖЭННЯ ПРАЛЕТАРСКАМУ МАСТАЦТВУ. ДА 40-ГОДДЗЯ ЛIТАРАТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЦI М. ГОРКАГА» (1932), «ТВОРЧЫ ШЛЯХ А. С. СЕРАФIМОВIЧА» (1933), «ПАЭТ ПРАЛЕТАРСКАЙ РЭВАЛЮЦЫI. ДА ПЯЦIДЗЕСЯЦIГОДДЗЯ Д. БЕДНАГА» (1933).

Кнiгi ў дар выкладчыкам i студэнтам фiлалагiчнага факультэта перадала былая вучанiца вучонага, настаўнiца-пенсiянерка з Краснаполля Каплунова Яўгенiя Паўлаўна. Вось што яна пiша ў сваiм пiсьме:

«Пасылаю вам кнiгi былога настаўнiка — акадэмiка I. I. Замоцiна. Пры гэтым не магу не выказаць тое, што пакiнуў ён у сэрцах сваiх вучняў. Прайшло больш 50 гадоў, як мы, студэнты Мiнскага педагагiчнага iнстытута, затаiўшы дыханне, слухалi яго лекцыi. 50 гадоў не выкраслiлi з памяцi вобраз гэтага выдатнага вучонага. I калi ёсць настаўнiкi «на ўсё жыццё», то такiм Настаўнiкам быў для нас акадэмiк I. I. Замоцiн. I калi ў сценах навучальных устаноў ёсць свае багi, то такiм богам быў для кожнага з нас Iван Iванавiч: мы любiлi яго, мы пакланялiся яму. Самае галоўнае, чым ён нас здзiўляў, —гэта лектарскае майстэрства. У тлумачэннi лiтаратурных твораў гэта быў сапраўдны лектар-творца, якi ўзнаўляў жывую эпоху, жывыя вобразы i характары. Усё, аб чым гаварыў I. I. Замоцiн, засталося ў памяцi на ўсё жыццё.

Шкада, што гэты выдатны вучоны, блiскучы лектар i абаяльны чалавек пайшоў вельмi рана з жыцця, пайшоў дачасна, незаконна рэпрэсiраваны.

I. Замоцiн — вядомы рускi i беларускi лiтаратуразнавец. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю ў Пецярбургскiм гiсторыка-фiлалагiчным iнстытуце ў 1897 г., ён ужо ў 1904 годзе абараняе дысертацыю на ступень магiстра рускай лiтаратуры. У гэты ж час ён распачаў педагагiчна-выкладчыцкую дзейнасць у Варшаўскiм i Пецярбургскiм унiверсiтэтах. З 1908 г. I. Замоцiн — доктар рускай славеснасцi i прафесар Варшаўскага унiверсiтэта.

У 1922 годзе быў запрошаны на працу ў Беларускi дзяржаўны унiверсiтэт i па 1928 год выкладаў рускую лiтаратуру на рабфаку БДУ. I. Замоцiн быў адным з арганiзатараў Iнбелкульта (1922) i Акадэмii навук БССР. Ён актыўна ўключыўся ў даследаванне гiсторыi i тэорыi беларускай лiтаратуры, выступаў у друку з крытычнымi матэрыяламi. Акадэмiк I. Замоцiн, як адзначае У. Конан, iмкнуўся пераадолець iдэалiстычныя i вульгарна-сацыялагiчныя тэндэнцыi ў лiтаратуразнаўстве 20—30-х гадоў, спалучыць лепшыя традыцыi дарэвалюцыйнай айчыннай навукi з марксiсцкай эстэтыкай i сацыялогiяй мастацтва. Работы I. Замоцiна паклалi пачатак сiстэматызаванаму вывучэнню творчасцi асобных беларускiх пiсьменнiкаў (Я. Коласа, Я. Купалы, Ц. Гартнага, К. Крапiвы, П. Глебкi i iнш.), садзейнiчалi станаўленню беларускай тэксталогii. Вядомы ён i як аўтар работ па методыцы выкладання мовы i лiтаратуры. Пяру акадэмiка I. Замоцiна належыць больш 140 навуковых прац па гiсторыi рускай i беларускай лiтаратуры.

З перададзеных у бiблiятэку работ асаблiвую цiкавасць уяўляе брашура «М. Багдановiч. Крытычна-бiяграфiчны нарыс». Гэта асобны адбiтак уступнага артыкула (усяго 90 старонак) да акадэмiчнага выдання твораў Максiма Багдановiча, якi ажыццяўляўся ў 20-я гады да 10-годдзя з часу смерцi паэта.

Нягледзячы на значныя заслугi I. Замоцiна перад беларускай лiтаратурай i лiтаратуразнаўствам, iмя вучонага i пераважная большасць яго работ па-ранейшаму застаюцца па-за ўвагай сучасных даследчыкаў, малавядомы i недаступны шырокаму чытачу. У 1993 годзе будзе адзначацца 120-годдзе з дня нараджэння вучонага. Мяркую, што творчую спадчыну аднаго з буйнейшых савецкiх i беларускiх лiтаратуразнаўцаў 20—30-х гадоў варта было б перавыдаць.

**М. ПРЫГОДЗIЧ,**
**дацэнт кафедры беларускай мовы БДУ iмя У. I. Ленiна.**

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# На зямлі віцебскай

**Купалаўскія мясціны на Віцебшчыне...**

**Яны і на ціхай вулачцы абласнога цэнтра, якая носіць імя народнага паэта. Па ёй некалі хадзіў ён, прыязджаючы ў Віцебск.**

**І ў вядомай вёсцы Ляўкі пад Оршай, дзе зараз філіял купалаўскага музея і дзе жыў пясняр з 1935 года да самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны.**

**І яшчэ адна купалаўская мясціна нашага краю.**

Воблакам белым
здалёку бялеецца
Белы куток
на цудоўнай зямлі—
Можа, таму
гэту вёсачку Беліцай
Прадзеды
некалі нараклі.

**Сюды, у вёску Старая Беліца, што на Сенненшчыне, у 1903 годзе прыехаў малады Іван Луцэвіч. Працаваў у канторы маёнтка пана Свяцкага. Пражыў ён тут нядоўга: толькі да вясны 1904 года. І ўсё ж гэта зямля не забыла паэта.**

**Захаваўся будынак — помнік архітэктуры позняга класіцызму. Многія гады ў ім размяшчаліся спачатку заатэхнікум, потым сярэдняя школа.**

**У 1972 годзе на будынку была адкрыта мемарыяльная дошка «У гэтым доме жыў у 1903—1904 гг. народны паэт Беларусі Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч)».**

**У 1976 годзе выканком Віцебскага абласнога Савета прыняў помнік пад дзяржаўную ахову. Ён уключаны таксама ў «Звод помнікаў БССР. Віцебская вобласць».**

**Здавалася, ёсць усе падставы рэстаўрыраваць будынак, які ў апошні час гіне амаль на вачах, размясціць у ім культурныя ўстановы і музейны куток паэта.**

**Гаспадар у будынка ёсць. Гэта саўгас «Полымя». І ў 1982 годзе напярэдадні 100-гадовага юбілею паэта яго дырэкцыя, партыйны і прафсаюзны камітэты звярталіся ў Савет Міністраў рэспублікі з просьбай выдзеліць сродкі і генпадрадчыка для рамонту і рэстаўрацыі помніка архітэктуры. Саўгас планаваў размясціць тут Дом культуры і бібліятэку, якая зараз знаходзіцца ў былых панскіх канюшнях.**

**Міністэрству сельскай гаспадаркі БССР і Віцебскаму аблвыканкому тады ж было даручана разгледзець і вырашыць пытанне.**

**У 1985 годзе Віцебскім філіялам інстытута «Белжылпраект» была падрыхтавана і праектная дакументацыя, якая абышлася гаспадарцы ў 13,2 тысячы рублёў.**

**Аграпром гатовы быў выдзеліць і патрэбную каштарысную суму — 282 тысячы. Але генпадрадчык — трэст «Віцебсксельбуд» — палічыў: ёсць справы і паважней.**

**Ідзе час. Гіне будынак. Ці не адкажуць аб гэтым Беларускі Фонд культуры і Саюз пісьменнікаў БССР?**

**Мы заканчваем свой ліст зваротам: давайце, не адкладваючы, зробім усё магчымае, каб памяць пра народнага песняра сапраўды жыла на беліцкай зямлі, на зямлі Віцебшчыны!**

**Давід СІМАНОВІЧ, член Саюза пісьменнікаў СССР.**

**Аркадзь ПАДЛІПСКІ, кансультант Віцебскага абласнога савета таварства аховы помнікаў гісторыі і культуры.**

# Пакуль нас яднае трывога...

**Адбыўся пленум праўленняў Музычнага таварыства і Саюза кампазітараў Беларусі, на якім абмяркоўваліся праблемы мастацкай адукацыі і музычна-эстэтычнага выхавання падрастаючага пакалення.**

I.

КОЛЬКІ СЛОЎ пра своеасаблівую прэлюдыю. Напярэдадні пленума для яго ўдзельнікаў быў наладжаны канцэрт-сустрэча ў 130-й Мінскай сярэдняй школе. Спачатку — выступленне фальклорнага калектыву СШ № 3 (кіраўнікі А. Залеская і Т. Паўлава). Песні каляндарна-абрадавага цыкла, жартоўныя, гульнёвыя, прыбітальныя; акапэльныя і ў суправаджэнні баяна з цымбаламі; з карагодамі і скокамі пад акампанемент драўляных лыжак, трашчотак, бразготак; беларускія вершы, немудрагелістыя найгрышы, прыпеўкі...

Вялікая, мабыць і задужа насычаная была праграма. Затое паказалі гэтыя звычайныя гарадскія дзеці — і старэйшыя, і меншыя, — што ведаюць і ўмеюць яны нямала. Іх захопленасць, сам факт існавання фальклорнага калектыву ў агульнаадукацыйнай сталічнай школе расчулілі ўсіх неабыякавых да будучыні беларускага народнага мастацтва. І ніхто не ўсчынаў гаворку пра цяжкасці і праблемы (а яны, безумоўна, ёсць — хоць бы з рэпертуарам).

Потым слухалі гаспадароў— узорны хор «Журавінка» 130-й школы (кіраўнік А. Еўсюкоў). Гэты вядомы і сапраўды яркі калектыў паказаў некалькі твораў з падрыхтаванага да сёлетняй паездкі ў Чэхаславакію. На жаль, хліпкі пласт займае сёння беларуская песня, арыгінальная музыка нашых аўтараў у рэпертуарным грунце хору. Расказваючы пра «Журавінку», А. Еўсюкоў заўважыў: «Хору нашаму 15 гадоў, а з рэпертуарам кепска, пяём або старое, або тое, што атрымліваем у выніку асабістых творчых кантактаў. Жыве ў Слоніме Аляксандр Масляніцын, хормайстар, ён піша для нас. Барыс Кажэўнікаў з Баранавіч таксама хормайстар і мы таксама супрацоўнічаем з ім — вы чулі вянок беларускіх песень у ягонай апрацоўцы. Гэтага вельмі мала! Мы хочам прапагандаваць беларускую музыку, ставімся да яе з асаблівай цеплынёй. Чакаем апрацовак фальклору, зробленых для дзіцячага хору прафесійнымі беларускімі кампазітарамі, — вынаходлівых, з дасціпнымі гармоніямі».

Зразумела, такая «Журавінка» ў нас адна і менавіта кіраўнік зрабіў яе аблічча выразным. Але каб гэтая выразнасць была непаўторнаю, многае залежыць ад беларускіх кампазітараў. Процьма часу спатрэбілася б на тое, каб абысці творцаў з пытаннем: «А ці ёсць у вас задумкі для дзіцячага хору?» Бо толькі саюз налічвае каля васьмі дзесяткаў кампазітараў, а не кожны ж чалавек творчы ўваходзіць у саюз! Вось і чакае А. Еўсюкоў, што шырокая слава «Журавінкі» ўсхвалюе калі-небудзь дыпламаваных мінскіх кампазітараў і тыя павернуцца тварам да школьнага хору.

На гэты ж раз у зале іх было... трое. Калі пасля выступлення дзяцей слова далі кампазітарам, зрабілася ніякавата: яны дружна «трымалі паўзу». Паспрабавала ўратаваць гонар свайго саюза музыказнаўца В. Сізко, якая выказала ўражанні пра хор і ягоны рэпертуар, расказала пра свой удзел у музычных лекторыях. І тады ўжо Э. Наско, малады кампазітар, падсеў да раяля, прапанаваў сваю новую песню.

Вось вам і прэлюдыя сумеснага пленума праўленняў Музычнага таварыства і Саюза кампазітараў. «Культурная сувязь» паміж творцамі і юным пакаленнем. Сорамна? Але — факт...

II.

**СТАРШЫНЯ ПРАУЛЕННЯ МТ БССР М. Дрынеўскі выступіў на пленуме з дакладам. Спаслаўшыся на дакументы лютаўскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС і з'езда настаўнікаў Беларусі, ён падкрэсліў, што сфера музычнай адукацыі павінна зрабіцца сферай самай пільнай увагі. І ў сувязі з гэтым МТ павінна канкрэтызаваць сваю работу. Дакладчык зазначыў, што вынікі апытанняў сведчаць пра духоўную інфантыльнасць, адсутнасць мастацкага густу ў асноўнай масы моладзі. (Каб жа толькі моладзі!). Наяўная сістэма музычнага выхавання даўно выклікае трывогу творчай інтэлігенцыі, многіх педагогаў. Расказаўшы пра распрацаваную ў рэспубліцы комплексную праграму па эстэтычным выхаванні, іншыя захады, скіраваныя на перабудову народнай адукацыі, М. Дрынеўскі засяродзіўся на праблеме падрыхтоўкі музычна-педагагічных кадраў.**

**Настаўнік музыкі сёння прафесія і непрэстыжная, і дэфіцытная. У Беларусі 5933 агульнаадукацыйныя школы, а настаўнікаў музыкі на іх прыпадае 3262 — такія лічбы прагучалі з трыбуны. Вядома, што гэткае становішча імкнуцца паправіць, напрыклад, у Гродзенскім універсітэце, у Магілёўскім педінстытуце, увёўшы адпаведную спецыялізацыю. Паўстае пытанне адкрыцця музычна-педагагічнага факультэта і ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, бо яе выпускнікі пакуль вельмі рэдка ідуць працаваць у школу. І прычына тут не толькі ў міжведамасных бар'ерах. На жаль, гэтая ВНУ не рыхтуе музыкантаў-асветнікаў шырокага профілю, якія валодалі б не адным музычным інструментам, былі б умелымі арганізатарамі і да т. п.**

**Дакладчык звярнуў увагу на ўмовы, у якіх працуе сёння настаўнік музыкі. Матэрыяльная база на нізкім узроўні, не хапае інструментаў, апаратуры, неўкамплектаваныя фанатэкі. І ў абласных гарадах, і ў Мінску не ўсе СШ маюць спецыяльныя музычныя класы. Аналагічныя праблемы і ў дзіцячых садах, адкуль пачынаецца музычнае выхаванне. Тут адчувальная нястача матэрыялу для заняткаў, асабліва беларускага — кампазітары па-ранейшаму абмінаюць гэту сферу, а дзеці ж з маленства павінны слухаць і роднае слова, і родную інтанацыю. А хіба нармальна, што ў дзіцячых садах бракуе музычных цацак — адна на 11 чалавек!**

**Гаварыў М. Дрынеўскі і пра дзіцячую мастацкую самадзейнасць, прапанаваўшы, каб кожная школа развівала свае музычныя традыцыі; заўважыў недастаткова паслядоўнае і планамернае фарміраванне рэпертуару дзіцячых хораў (папрок на адрас рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры і адпаведнай секцыі СК БССР). Сур'ёзны прагал у сістэме прафтэхадукацыі: у падрыхтоўцы рабочай моладзі клопат пра яе культуру не зрабіўся абавязковай часткай. Не выкарыстаны пакуль рэзервы ўзаемадзеяння агульнаадукацыйных, дзіцячых музычных школ, школ мастацтваў і да т. п. Якую прастору для ініцыятыўных людзей адкрываюць супольныя мерапрыемствы па эстэтычным усенавучы і музычнай прапагандзе — гэту агульную работу могуць ладзіць агульнаадукацыйныя школы, бібліятэкі, ДМШ.**

**Асветніцкая праца. Тут асновай робіцца сінтэз музыкі і слова, неабходны для больш поўнага і эмацыянальнага ўспрымання матэрыялу, спрыяльны для дыскусій і роздуму, а значыць — для выпрацоўкі самастойных грунтоўных крытэрыяў. Тут і свае праблемы. Вуснай музычна-прапагандысцкай дзейнасцю ў нас займаюцца адзінкі. Вельмі мала такіх спецыялістаў, якія выходзяць са сваімі ведамі да аўдыторыі за сценамі навучальнай установы. Нават у Мінску, дзе вялікая колькасць музыказнаўцаў, не задавальняецца попыт на кваліфікаванае слова пра музыку, — канстатаваў дакладчык. Ён выказаў пажаданне надаць новы імпульс шэфскай рабоце СК, прапанаваў, каб у радыёэфіры і з тэлеэкрана часцей вялі размову музычныя дзеячы, каб было больш музычных рубрык для дзяцей, каб са старонак маладзёжнага друку не знікалі творчыя партрэты беларускіх кампазітараў, выканаўцаў.**

**Дакладчык расказаў пра работу МТ БССР за год, які мінуў з часу яго ўтварэння, пра арганізацыйна-фінансавыя праблемы гэтай новай супольнасці, прынамсі, яе абласных аддзяленняў.**



Намеснік старшыні праўлення Музычнага таварыства Літоўскай ССР В. Бакас і старшыня праўлення МТ БССР М. Дрынеўскі.

III.

ПЛЕНУМ праходзіў у досыць шчыльна запоўненай зале рэспубліканскага Дома работнікаў мастацтваў. Відныя беларускія музыканты, работнікі дзіцячых садоў, кіраўнікі самадзейных калектываў, школьныя настаўнікі, кампазітары... Было б натуральна, калі б у плыні палемічных выступленняў пачуўся і голас кіраўнікоў кампазітарскага саюза. (Хацелася высветліць пазіцыю ягонага праўлення хоць бы ва ўзаемаадносінах з МТ). Ды было дзіўна, бо выступленні «ад саюза», нават у форме рэплікі, не прагучалі. На гэта можна было б і не зважаць, але ж пленум праходзіў як супольнае мерапрыемства двух праўленняў. Відаць, яго арганізатары не прадбачылі гэткі кампазітарскі байкот, думалі на лепшае...

Увогуле ж гаворка на пленуме атрымалася шчырая і — трывожная. Прыгадайма яе.

Пралікі ў эстэтычным выхаванні дзяцей спараджаюць бездухоўнасць, побач з якой — амаральнасць. Гэта цудоўна, што ёсць у нас калектывы накшталт «Журавінкі», трэба іх пеставаць і ствараць новыя. Але ж у іх не зацягнеш дзяцей, якія не маюць патрэбы ў занятках музыкай, спевамі. Сёння музычная культура народа нізкая, і стварылася заганнае кола: нашы дзеці, якія, гледзячы на нас, не вучацца спяваць, будуць пладзіць да сябе падобных, — даводзіла В. Місцюк, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення МТ. Абыякавасць да музычнага выхавання адчуваецца паўсюль: і ў дзіцячых садах, дзе ёсць многае, пачынаючы ад заняткаў рытмікай, ды мала музыкі; у школах, дзе вучні маюць адзін урок музыкі на тыдзень і той праводзіцца на слабай базе. Дый да гэтага пленума няма належнай увагі — да яго не выказала цікавасць тэлебачанне.

У першыя гады Савецкай улады для школьнікаў з 1 па 6 клас двойчы на тыдзень праводзіўся ўрок музыкі. Цяпер жа многія настаўнікі і дзеці лічаць, што без яго наогул можна абысціся. Які маральны ўрон нясе такое меркаванне!— абуралася В. Місцюк. І прапаноўвала, спасылаўшыся на вопыт Прыбалтыйскіх рэспублік, высокаразвітых замежных краін, павялічыць курс музыкі да трох гадзін у пачатковых класах і потым весці яго да 10 класа па дзве гадзіны на тыдзень. Хіба прайграюць нашы дзеці, калі будуць скарочаны іх матэматычныя веды і павялічаны эстэтычныя? Чаму мы не дбаем пра асобу дзіцяці — не ўсе пойдуць у тэхнічныя ВНУ, а чалавекам павінен жа стаць кожны! Хто адпаведна сваім схільнасцям выбера дакладныя навукі, здолее і падрыхтавацца да паступлення ў ВНУ. А пакуль мы маем інжынераў з вялікімі хібамі ў выхаванні, не здатных выхаваць пакаленне, духоўна вышэйшае за сябе. Ні ў студэнтаў-філолагаў, ні ў матэматыкаў няма спецкурсаў па эстэтычным выхаванні, а яны ж амаль усе—будучыя класныя кіраўнікі, як жа яны будуць гутарыць са школьнікамі, напрыклад, пра музыку? Наогул, важна навучыць маладога чалавека здабываць веды, а не дыплом, праз веды фарміраваць музычны густ студэнтаў.

Выказала В. Місцюк і такую заўвагу: рыхтуюць проста настаўнікаў музыкі, а трэба рыхтаваць кадры, прыдатныя і да выкладчыцкай, і да музычна-асветніцкай работы.

Пра якое музычнае выхаванне ў школе можна гаварыць, калі на тыдзень — толькі адна гадзіна заняткаў музыкай? А калі ў вясковай школе наогул для такога ўрока няма настаўніка? А якія адносіны да настаўніка музыкі, да ягонай справы з боку калег-«прадметнікаў» — гэта ж не сакрэт! І гэтыя адносіны пераймаюць дзеці. Або: якое стаўленне да дзяцей, што хочуць наведваць музычную школу?.. Дырэктар Красненскай МШ Маладзечанскага раёна Б. Верацельнікаў засярodзіўся, прынамсі, на праблеме ўзаемаадносін агульнаадукацыйных школ і ДМШ.

Нямала прыкладаў, калі дзяцей не адпускаюць у музшколу з розных пазакласных мерапрыемстваў. То сход з выпадку Дня Парыжскай камуны, то — уявіце сабе! — справаздачна-выбарчы збор звяна, то піянерскі паход па макулатуру. Каму і кім дадзена права зрываць навучальна-выхаваўчы працэс у дзяржаўных установах (ДМШ) пазакласнай работай? Калі ж вучань за кошт заняткаў па працоўным выхаванні, часам нават не прадугледжаных загадзя, наведае планавы ўрок у музшколе, яму ставяць «двойку» або зніжаюць адзнаку за паводзіны. Дзеці, якія па-сапраўднаму хочуць займацца музыкай, у такіх умовах спрабуюць хітраваць, падладжвацца, і ў рэшце рэшт — душэўна надломваюцца.

Тэму прэстыжнасці выкладання музыкі прадоўжыў намеснік старшыні Гродзенскага абласнога аддзялення МТ А. Чопчыц. У агульнаадукацыйных школах адзін настаўнік і ранішнікі іграе, і ўрокі па сістэме Кабалеўскага вядзе. Ёсць раёны, дзе адзін чалавек па тры школы абслугоўвае, «забяспечвае хор». А якое маральнае заахвочванне настаўніка спеваў? Колькі сёння ў рэспубліцы заслужаных настаўнікаў — выкладчыкаў музыкі? Ніводнага...

Дырэктар мінскай ДМШ № 1 А. Папоў пазнаёміў аўдыторыю з афіцыйным дакументам, прынятым у Латвіі, паводле якога грамадска карыснай працай для вучня лічацца і заняткі ў ДМШ. У нас жа трэба многім змяніць псіхалогію, каб зразумець, што музычныя ўрокі непараўнальна больш каштоўныя для асобы дзіцяці, чым падмятанне вуліцы або склейванне папяровых кубікаў. Што датычыць уласна музшкол, тут, на думку А. Папова, неабходна адмовіцца ад практыкі правядзення конкурсаў сярод калектываў (які гэта, напрыклад, конкурс дзіцячых духавых аркестраў у Мінску, калі іх тут усяго два?). Лепш няхай будуць фестывалі.

●

ВОПЫТ пераканаў мяне ў тым, што трэба пазбавіцца пэўных ілюзій у музычным выхаванні, гаварыў намеснік старшыні праўлення Магілёўскага аддзялення МТ кампазітар У. Браілоўскі. Высокае мастацтва заўжды было элітарнае — і ў стварэнні, і ва ўспрыманні. Могуць з гэтым спрачацца, але нават пры добрай рабоце не галоўная мэта — запоўніць канцэртныя залы. Галоўнае — стварыць абстаноўку, каб адзінкі, дзесяткі, адораныя прыродай, змаглі займацца музыкай, развівацца і быць своеасаблівым цэнтрам прыцягнення для іншых. І яшчэ: дзіцячае музычнае выхаванне дае плён да пэўнага часу і не дае гарантый, што адыграе вызначальную ролю ў перыяд станаўлення асобы маладога чалавека. Эстэтычным выхаваннем чалавека пры яго так званым пераходзе ў свядомы ўзрост мы не займаемся, вось наша ўпушчэнне. Тут многае залежыць ад школьных настаўнікаў, і трэба найперш звярнуць увагу на іх. У Магілёўскай вобласці, як зазначыў У. Браілоўскі, прадумваецца сістэма музычнага выхавання настаўнікаў, своеасаблівы лікбез для іх.

Завуч па музыцы СШ № 5 Брэста, кіраўнік ансамбля «Прыбужжа» В. Верамюк заклікала музыкантаў скаардынаваць свае дзеянні ў вырашэнні выхаваўчых задач. Высока і далёка адарваліся Саюз кампазітараў, БДК, музвучылішчы ад сярэдняй школы, гаварыла яна. Пра беларускіх музычных дзеячаў, якіх не ведаеш, немагчыма і дзецям расказаць, а запрасіць на сустрэчу можна толькі за грошы, а гэта значыць, за ўласны кошт настаўніка. Кампазітар-брастаўчанін В. Кандрасюк проста не можа надзяліць увагай усе школы і гурткі, у якіх дзеці прыдумваюць музыку, у адным Брэсце такіх дзяцей многа. Добра, калі побач настаўнік-музыкант. А калі вакол людзі, абыякавыя да мастацтва, каму паказваць першыя вопыты? Часцяком так і бывае, і потым, у старшых класах, дзецям ужо і не хочацца сябраваць з музыкай. Вядома, неабходна павысіць музычна-эстэтычную культуру настаўнікаў агульнаадукацыйных школ, ды гэта пакуль няма каму рабіць. Паводле слоў В. Верамюк, музыканты з кансерваторскай адукацыяй не гатовыя працаваць у агульнаадукацыйнай школе. А хто ж, які асветнік зможа выйсці да настаўнікаў — да гэтых дарослых, сфарміраваных ужо людзей, якіх трэба запаліць словам?

І ўсё ж сказаць, што музыкантаў-асветнікаў у нас днём з агнём не знойдзеш, нельга. Унікальныя гэта людзі, але яны ёсць. Напрыклад, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Асветніцкая дзейнасць — галоўная дзейнасць філармоніі, падкрэсліў лектар-музыказнавец БДФ А. Парэцкі. Ён расказаў пра арганізацыю і работу музычных лекторыяў у школах.

Справа гэтая, на жаль, непрэстыжная. Неаднойчы даводзілася канцэртна-лекцыйным брыгадам пераадольваць недавер кіраўніцтва школы: «А, ведаем вас, артыстаў! Зарабіць на нас хочаце». Або сутыкацца з амбіцыямі невуцтва, накшталт: «Што вы нам прапануеце — Глінку ў нас нават настаўнікі не ведаюць, а дзеці тым больш. Не пойдуць. Трэба будзе сілком збіраць. Вы б лепей што-небудзь пра рок...» Нізкая культура выхаваўчага працэсу ў школе. Мабыць, як вынік — нізкая культура паводзін дзяцей у канцэртнай зале, прычым настаўнікі ставяцца да гэтага спакойна: «А яны ў нас заўсёды гэтак...» Абуральна і тое, што нярэдка ў школе стаіць знявечанае піяніна, ніхто не адказвае за варварскія адносіны да музычнага інструмента, педагогі быццам заплюшчваюць вочы на гэта. І таму асабліва балюча дзецям, нераўнадушным да мастацтва, тым больш—навучаным іграць.

Старшы настаўнік музыкі СШ № 62 Мінска С. Ляпёшкін пагадзіўся: увогуле, працаваць цяжка, ёсць і настаўнікі, якія пішуць прозвішча кампазітара «Біт Ховен». Ды не ўсе выкладчыкі музыкі спяць мёртвым сном. Напрыклад, у 62-й школе — а такіх у Мінску, сцвярджае С. Ляпёшкін, многа, — дзеці настолькі дасведчаныя, маюць густ і цікавасць да музыкі, што прыдзірліва выбіраюць білеты на канцэрты, якія ім прапануюць распаўсюджвальнікі. У такой школы свае праблемы: дзе ўзяць высакаякасныя запісы навінак беларускай музыкі, адкуль даведацца, хто з нашых кампазітараў над чым працуе, што з напісанага можна спяваць школьнікам?


Мастацкі кіраўнік узорнага хору «Дружба» мінскай СШ № 1 Т. Валошына, намеснік старшыні Гродзенскага абласнога аддзялення МТ А. Чопчыц, кампазітары В. Войцік, В. Іваноў, мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ю. Гільдзюк. Фота Ул. КРУКА.

Рэктар БДК М. Казінец расказаў пра перспектывы развіцця ВНУ, у тым ліку перспектыву падрыхтоўкі на базе акадэмічнай адукацыі педагогаў для сярэдніх школ (плануецца адкрыць у кансерваторыі музычна-педагагічнае аддзяленне). Ён выказаў таксама прапанову: стварыць у Беларусі музычнае выдавецтва. Бо яго адсутнасць спарадзіла мноства хранічных праблем з распаўсюджваннем рэпертуару, капіраваннем нот, неабходных вучэбным і самадзейным калектывам.

●

УЗРОВЕНЬ музычна-эстэтычнага выхавання залежыць ад спраў у сістэме музычнай адукацыі. Меркаваннямі пра яе перабудову падзяліўся прафесар БДК М. Солапаў. Сёння ДМШ ацэньваюць паводле таго, колькі яны далі лаўрэатаў абласнога, раённага ўзроўню. А вось колькі яны далі аматараў мастацтва — пра гэта і гаворкі няма! Развіццё сеткі музшкол ідзе з касмічнай хуткасцю. Вось іх будзе ўдвая больш. А ў якую якасць пяройдзе колькасць? Нічога добрага не будзе ад таго, калі ўсе педагогі застануцца на роўных правах: і той, хто са скуры вылузваецца ў працы, і той, хто нічога не робіць. Калі б педагог ведаў, што пры дрэннай рабоце ён не атрымае нагрузку, — стараўся б і сам вучыўся б, а не «адбываў тэрмін» у інстытуце павышэння кваліфікацыі.

Прафесар прапанаваў правесці ў адной з мінскіх ДМШ эксперымент. Адмовіцца ад стандартных праграм, якія патрабуюць ад усіх вучняў аднолькава: «дзве п'есы і эцюд». Няхай нехта з вучняў іграе па слыху, нехта імправізуе, нехта выяўляе сябе як канцэртмайстар — развівае найбольш поўна і свабодна свае індывідуальныя схільнасці! І такое меркаванне: калі СШ з музычным ухілам выцесняць «звычайныя» школы, колькасць ДМШ давядзецца скарачаць, бо іх абавязкам будзе падрыхтоўка толькі прафесіяналаў. Калі ж ДМШ развіваць як масавыя навучальныя ўстановы, іх трэба дыферэнцыраваць на школы для аматараў і для будучых прафесіяналаў.

Прапанаваў М. Солапаў таксама стварыць у рэспубліцы свае, беларускія вучэбныя праграмы і планы, удасканаліць іх у адпаведнасці з бюджэтам. Бо мы прызвычаіліся, што ўсё з Масквы дашлюць і «спусцяць», заручыўшыся подпісам аўтарытэтнай асобы на дакументах.

Выснову М. Солапава можна прадоўжыць: наогул, у рабоце Музычнага таварыства трэба зыходзіць з рэальных магчымасцей і патрэб рэспублікі і не азірацца, як у колішнія часы, на кожную рэкамендацыю і параду апарату праўлення з Масквы. Празмерная цэнтралізацыя ў розных сферах жыцця, як сведчыць гістарычны вопыт, да дабра не вядзе. Праблемы мастацкага выхавання ў нашай рэспубліцы вымагаюць ад нашых грамадскіх, творчых арганізацый ініцыятыўнасці і самастойнасці. Ды адны і тыя ж праблемы ў розных месцах, у розных школах выяўляюцца неаднолькава і вырашацца будуць па-свойму.

Выкладчыца харавога дырыжыравання Брэсцкага музычнага вучылішча Л. Мякіш вядзе і ўрокі спеваў у СШ № 8. У яе 24-гадовы вопыт працы настаўніцай музыкі ў агульнаадукацыйнай школе. Штогод ладзяцца агляды мастацкай самадзейнасці, і настаўнік музыкі павінен «забяспечыць» усе жанры: народны аркестр, фальклор, дыскатэку, хор і інш. І прыцягнуць да гэтага аўральнага мерапрыемства як мага больш дзяцей. (Прычым, у адрозненне, напрыклад, ад выкладчыка фізкультуры настаўнік музыкі не забяспечаны гарантаванай заработнай платай. А 16 гадзін яго працы «ацэньваюцца» ў 25 рублёў). Члены камісіі глядзяць на сцэну і падлічваюць, колькі «выстаўлена» ўдзельнікаў. Сто? Нядрэнна. Сто пяцьдзесят? Добра! Тады дырэктар школы задаволены...

Гэтыя агляды-конкурсы, падкрэсліла Л. Мякіш, часам ствараюць не свята, а нездаровую атмасферу ў школе. Ці не лепш праводзіць фестывалі? У адной школе добры педагог-харэограф, у другой — фалькларыст па прызванні, трэцяя мае харавіка: няхай і паказваюць, хто на што здатны, навошта ж усіх абавязваць да універсальнасці і масавасці!

**IV**

АЎТАР гэтых нататак не меў на мэце пераказваць і каменціраваць выступленні ўсіх прамоўцаў. Ды ставіць апошнюю кропку яшчэ ранавата.

Работнік цэнтральнага праўлення Усесаюзнага МТ Н. Сапрыкіна паведаміла з трыбуны вынікі аналагічнага ўсесаюзнага пленума, што прайшоў у Маскве, і ўнесла «прапановы ад цэнтра» ў праграму музычна-эстэтычнага выхавання (сістэма індывідуальнага і калектыўнага настаўніцтва; арганізацыя музычных змен у піянерлагерах; правядзенне ў абласных гарадах усесаюзнага свята для дзяцей і юнацтва «Музыкальный подснежник» і інш.). Вядома, для людзей з жывым, творчым, самастойным мысленнем прапанова — гэта не кіраўніцтва да дзеяння, а прычына для роздуму. Тым больш, што наша маскоўская госця слушна даводзіла: «Музычнае таварыства — гэта ўсе мы, а не апарат праўлення».

Усе мы...

Для прадстаўнікоў розных прафесій, якія сабраліся пад сцягам МТ, аказалася нялёгкаю справай — акрэсліць супольную пазіцыю. Пакуль нас усіх, як заўважыў начальнік Упраўлення тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры БССР У. Рылатка, аб'ядноўвае трывога.

Праўда, шматлікія прычыны гэтай трывогі так або інакш звязаны з праблемамі музычна-эстэтычнага выхавання ў нашым грамадстве. Але ж трывогі і праблемы — гэта не справа.

Нягледзячы на тое, што МТ— арганізацыя дэмакратычная, усё ж створана яна «зверху». І яе грамада, атрымаўшы ўжо гатовы статут, пачувае сябе пакуль няёмка: колькі ж нас і хто мы? якія ў нас канкрэтныя задачы і правы? Ці не будзем мы замінаць адно аднаму або рабіць тое ж, што абавязаны рабіць філармонія, Саюз кампазітараў, прафсаюз, камсамольскія органы? Ці не ўтворым чарговую бюракратычную ўстанову для збору членскіх узносаў?

Невыпадкова пад час пленума многія меркавалі над тым, як вялікаму, але не маналітнаму, стракатаму гурту МТ... размежавацца. Самавызначыцца па секцыях або, улічваючы плённы вопыт асацыяцыі джазавых музыкантаў, стварыць аналагічныя асацыяцыі музыкантаў філарманічных, настаўнікаў музыкі, аматараў харавых спеваў і г. д. Тады будзе і можна, і трэба шукаць сваю тэму і канкрэтную справу ў музычным выхаванні. А то цяпер жа ці не ўсе шукаюць пустазелле ў чужым агародзе.

Музычнае выхаванне, духоўная культура народа — вечнае поле прыцягнення творчых сіл. Недарэчная, марная справа — займацца дзяльбой гэтага поля, «меціць тэрыторыю» і касавурыцца на суседа. Настолькі яно неабсяжнае, што хопіць месца і аратаму, і сейбіту. Хлебаробу і кветкаводу, і таму, хто хоча ўзрасціць пладовы сад... Відаць, вызначыўшыся па інтарэсах, усе добраахвотнікі Музычнага таварыства БССР змогуць і справамі заняцца. Поруч, на агульным полі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**


Удзельнікі пленума Э. Казачкоў, М. Агароднікаў, Ю. Семяняка.

**Немалая частка прадукцыі выдавецтваў рэспублікі — фотаальбомы, відавыя і тэматычныя (у асноўным на іх спецыялізуецца «Беларусь»). Амаль у кожнай кнігарні можна пабачыць цэлую «выстаўку» нераспрададзеных альбомаў, накшталт «Росквіт маёй рэспублікі» ці «Пад шчаслівай зоркай». Так што само сабою ўзнікае пытанне — для каго ўсё гэта робіцца? Даволі вялікія па маштабах рэспублікі тыражы, высакаякасная папера (якой, кажуць, у краіне не хапае), каляровы друк са слайдаў, апрацаваных па тэхналогіі «Кодак» (стужка, фотапапера, хімрэактывы набываюцца за валюту), і, нарэшце, вялікая праца ўкладальнікаў, фотакарэспандэнтаў, рэдактараў, паліграфістаў... І ўсё дзеля таго, каб потым альбом гадамі «ўпрыгожваў» паліцы кнігарань! Хвалюе гэта многіх, і не толькі чытачоў, але і тых, чыя праца ўкладзена ў нерэалізаваную прадукцыю выдавецтваў...**

**Сёння наш карэспандэнт гутарыць з вядомым фотамайстрам Віталем БАРАНОЎСКІМ.**

# ГАЛОЎНЫ КРЫТЭРЫЙ — ТВОРЧЫ

## ШТО ХВАЛЮЕ ФОТАМАСТАКА

— ДРУКАВАНАЕ выданне — гэта канцэнтраваная праца многіх. Мастаку (ці ў дадзеным выпадку — фотамастаку) трэба гэта ўлічваць. Ён павінен творчасцю даказваць сваё «права голасу», сваю прафесійную годнасць. Але з другога боку — калі ўвесь час «б'юць па руках», калі працуеш, азіраючыся на чужы, да таго ж не вельмі высокі густ, дык у пачаткоўца няшмат шанцаў стаць майстрам.

Страты, якія прынесла нашаму фотамастацтву густаўшчына, немагчыма падлічыць. Спашлюся на ўласны вопыт. На маёй персанальнай выстаўцы, што была на пачатку года, экспанаваліся ў асноўным творчыя работы апошніх дзесяці год, але былі і фатаграфіі канца 60-х гадоў. Гэта рэдкі ў маім жыцці выпадак, калі мне не перашкаджалі выстаўляць тое, што я лічу для сябе самым важным. Падобную экспазіцыю хацеў зрабіць яшчэ гадоў дзесяць назад, але не меў падтрымкі сярод так званых дырэктыўных устаноў, сярод тых, хто вызначыў, быць выстаўцы ці не. А, здавалася б, чаму? Тэма экспазіцыі — мой край, Беларусь, яе прырода і людзі. Але паглядзіце фотаальбомы, якія выдаюцца ў нас амаль штогод, прыгадайце фотавыстаўкі мінулых гадоў — паўсюль шарэнгі трактароў, камбайны, будаўнічыя краны, стандартныя твары будаўнікоў, калгаснікаў, вучоных. Ва ўмовах, калі мастакі гаварылі не свае словы, нават выставачныя, творчыя фотаработы ствараліся па выдавецкіх, «прахадных» канонах. Прабіць «сваю» тэму было амаль немагчыма.

**— Трэба, напэўна, гаварыць пра заніжанасць, а ў шэрагу выпадкаў увогуле пра адсутнасць творчых крытэрыяў?**

— Так. І ў мастацтве выяўленчым, і ў фотамастацтве тэхніка — толькі палавіна справы. Сапраўды, галоўныя крытэрыі — творчыя. Але ж іх павінны трымацца адначасова і выканаўца, і рэдактар, і заказчык. У мастакоў яны выпрацоўваюцца ў часе вучобы ў інстытутах, фатографам цяжэй. Фотамастацтву нідзе спецыяльна не вучаць. Я, напрыклад, прыйшоў у фатаграфію з аматараў. Так могуць сказаць пра сябе многія. Спачатку было дзіцячае захапленне—магчымасць адлюстравання і фіксацыі выявы. Хацелася зрабіць так рэзка, як у «бытоўцы». Наступная ступень, новы рубеж — газетная фатаграфія: выява, выхапленая з жыцця. Калі пабачыў свой здымак у газеце ўпершыню — быў шчаслівы.

Я скончыў інстытут фізкультуры, але ў час вучобы з фатаграфіяй не парываў. Мэтанакіравана цікавіўся гісторыяй жывапісу, рознымі «ізмамі», сродкамі выяўленчай выразнасці. Кампазіцыю вучыў па кіно (яго я, дарэчы, успрымаю як вышэйшую ступень фатаграфіі). Марыў паступіць у ВГІК, але не скláліся жыццёвыя абставіны. Папрацаваць у кінематографе мне ўсё ж давялося. Быў асістэнтам на «Беларусьфільме» ў вядомага аператара Булінскага. Іншы раз ён давяраў мне камеру. Шмат што дала мне, як прафесіяналу, таксама і работа з аператарам Акулічам.

Віталь БАРАНОЎСКІ за працай.

**— А ці задавальняе вас праца фотакарэспандэнта выдавецтва?**

— Вы, мабыць, маеце на ўвазе выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», дзе я працую цяпер. Я, дарэчы, магу параўноўваць, бо працаваў у Таварыстве дружбы з замежнымі краінамі, і ў Мастацкім фондзе, і ў выдавецтве «Беларусь». І адзначу, што становішча фотакарэспандэнтаў Цэнтральнай фотастудыі «БелСЭ» даволі неакрэсленае. Мы ўсе пазаштатнікі, акладаў не маем. Атрымліваем толькі ганарары. Такім чынам далёка не кожны мае нават пражытачны мінімум. Часам выдаюцца заданні заведама бессэнсоўныя. Памятаю, колькі сіл і часу змарнавалі карэспандэнты ЦФС, калі рыхтавалі ілюстрацыйны матэрыял да альбома, прысвечанага сацыялістычным абрадам.

Вось едзе фотакарэспандэнт без усялякіх камандзіровачных і сутачных на сваім бензіне кіламетраў за дзвесце, каб адзняць паказальныя провады ў войска. А потым заказчык яму гаворыць: «У нас тут па сцэнарыі павінны быць прызыўнікі з адухоўленымі тварамі, задуменныя ветэраны вайны, дзяўчаты з кветкамі — а вы што наздымалі?» «Што было, тое і зняў» у якасці тлумачэння не прымаецца. І так было амаль па кожным пункце кадраплана. А то, бывае, пасылаюць цябе здымаць для энцыклапедычнага даведніка помнікі архітэктуры, якія існуюць ужо толькі ва ўспамінах... І ніхто за такія накладкі, за «парожнія рэйсы» не адказвае. Такое лічыцца нармальным.

Увогуле, калі казаць пра ілюстраваныя альбомы, якія штогод выдае «Беларусь», дык тут даўно намеціўся крызіс жанру.

**— Ці могуць непасрэдныя выканаўцы - фотакарэспандэнты ўплываць на «сцэнарыі» выданняў?**

— Амаль што не. У выдавецкай справе вельмі моцная інерцыя мыслення. Напрыклад, ЦФС перададзены заказ на фотаальбом пад назвай «Исцелители земли», прысвечаны меліярацыі Палесся. Сам альбом і яго назва — гэта проста здзек. Працаваць над гэтым заказам, значыць, ісці супраць свайго сумлення. Бо ўсе мы ведаем, што ў выніку меліярацыі на Палессі пасля 2—3 год фантастычных ураджаяў утваралася сапраўдная пустыня, знікала вада ў студнях, мізарнелі вёскі. А меліярацыя працягваецца, хоць і крыху сцішыўся прапагандысцкі напал.

Нават калі казаць пра свае работы, якія лічу ўдалымі, трэба адзначыць, што мая задума ніколі не рэалізавалася цалкам. Добра, калі на трэць. Так было з фотаальбомам «Вязынка», прысвечаным родным мясцінам Янкі Купалы.

Яшчэ ў 60-я гады ў выдавецкіх планах стаяў альбом пра старажытную архітэктуру Беларусі — яго дагэтуль няма. А сама ідэя гэтага выдання трансфармавалася ў «Памяць зямлі беларускай», дзе акцэнт зроблены на помніках Айчыннай вайны.

**— Такім чынам, часта «зялёнае святло» загадзя даецца выданням, якія не будуць мець чытацкага попыту, і ігнаруюцца вельмі цікавыя тэмы?**

— Тут, разумееце, зноў паўстае пытанне аб статусе фотакарэспандэнта, фотамастака. Я хацеў бы зрабіць нешта без папярэдняга кадраплана. Напрыклад, альбом прысвечаны прыродзе Беларусі — не энцыклапедычны даведнік, а вобразнае адлюстраванне. Ці 2—3 гады папрацаваць з геолагамі— я ўпэўнены, што абавязкова з'явіўся б вельмі цікавы матэрыял. Адчуваю, што я здольны да самастойнай работы. Але каб мець доступ да якаснай фотатэхнікі, я павінен хадзіць «на службу» і падпарадкоўвацца выдавецкім планам, нават калі яны супярэчаць здароваму сэнсу. Як ігнараванне творчага падыходу, трэба разглядаць і зацверджанне нормы расходу фотаплёнкі.

Шмат праблем, але вырашаць іх трэба. Паўсядзённая работа фотакарэспандэнта павінна быць творчай.

**Гутарку вёў Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

*ПОШТА АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ*

**Рэдакцыя прадаўжае атрымліваць водгукі на публікацыю «Курапаты — дарога смерці» («ЛіМ», 3 чэрвеня, 1988 г.). Пішуць ветэраны вайны і зусім маладыя людзі, нашы беларускія чытачы і тыя, хто жыве за межамі рэспублікі. Дзеляцца сваімі думкамі журналісты, настаўнікі, бібліятэкары... Супрацоўнікі навуковай бібліятэкі імя Горкага падпісаліся пад сваім лістом усім калектывам (каля 40 чалавек).**

**Ніжэй друкуем развагі журналіста, адказнага работніка аднаго з усесаюзных міністэрстваў У. Сазановіча і паэтычны водгук В. Тараса.**

# НАЗЫВАЦЬ СВАІМІ ІМЁНАМІ...

Прачытаў артыкул З. Пазняка і Я. Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці».

Расказанае аўтарамі раскрыла яшчэ адну старонку перажытага старэйшым пакаленнем у час сталінскіх рэпрэсій. Сотні, тысячы бязвінных людзей былі пазбаўлены самага дарагога на зямлі — жыцця. І мяне заўсёды здзіўляе пазіцыя некаторых аўтараў публікацый у перыядычным друку, якія сёння спрабуюць апраўдаць сталінскіх служак, тых, у каго па локці ў крыві рукі. Маўляў, прайшоў час, і іх нельга прыцягнуць да адказнасці. Вінаватыя ў рэпрэсіях павінны панесці суровую адказнасць за кроў замучаных, слёзы і гора іх дзяцей, родных і блізкіх. Многія з іх у той час атрымалі высокія ўрадавыя ўзнагароды, ганаровыя званні за выяўленне «ворагаў народа», а цяпер з'яўляюцца персанальнымі пенсіянерамі. Пара ўжо разабрацца, хто што заслужыў. Так, лічу, будзе справядліва перад памяццю бязвінна загінуўшых, сярод якіх ёсць і шмат маіх землякоў, ураджэнцаў Клецкага раёна.

Рэпрэсіям у 30-я гады перш за ўсё падвяргаліся тыя, хто ў 1918 годзе пры наступленні немцаў, а потым белапалякаў, эвакуіраваўся на ўсход з Клецкай, Сіняўскай, Заастравецкай і Грыцэвіцкай валасцей. Не ўсе змаглі вярнуцца дамоў з Чырвонай Арміі пасля Рыжскага мірнага дагавору 1921 года. Рэпрэсіям падвяргаліся і тыя, хто ў 1919—1921 гг. на тэрыторыі цяперашняга Клецкага раёна праводзіў падпольную і разведвальную работу, накіраваную супраць урада буржуазнай Польшчы і, каб пазбегнуць арышту дыфензівай, перайшлі граніцу ў СССР з Заходняй Беларусі.

Патрэбны факты? Калі ласка. Сёлета спаўняецца 100-годдзе з дня нараджэння С. А. Несцера, ураджэнца вёскі Заастравечча, члена партыі з 1918 года, актыўнага ўдзельніка ўстанаўлення Савецкай улады ў Слуцкім павеце, а потым дзяржаўнага арбітра Саўнаркома БССР. У 1937 годзе яго арыштавалі і асудзілі. Пасля XX з'езда КПСС дзецям Сцяпана Антонавіча на запытанне пра лёс бацькі паведамілі, што памёр у турме, а звестак, дзе пахаваны, няма. Так, можа, там, ля былой вёскі Зялёны Луг, С. А. Несцер сустрэў сваю смерць?

А ў чым жа быў вінаваты В. Н. Кулік, ураджэнец вёскі Бабаевічы, які ў 1937 годзе працаваў бухгалтарам саўгаса «Жылічы» Кіраўскага раёна? Ні ў чым. Але 26 жніўня 1937 года ноччу ў дзверы яго дома пастукалі... Васіль Навумавіч беспадстаўна быў асуджаны па артыкулах 72, 76 КК БССР (контррэвалюцыйная прапаганда і агітацыя) на 10 год заключэння ў выпраўленча-працоўных лагерах. Толькі восенню 1967 года дачцэ Куліка Таісе Васільеўне Рыбаковай стала вядома, што бацька рэабілітаваны пасмяротна. Але яна і цяпер яшчэ не траціць надзеі на тое, каб адшукаць яго магілу...

У канцы 1937 года былі расстраляны С. С. Коршун і яго жонка Ф. В. Коршун з вёскі Макраны, якія перад арыштам жылі ў Свярдлоўскай вобласці. Чацвёра іх дзяцей засталіся без бацькі і маці...

1 лістапада 1937 года Камісіяй НКУС СССР і Пракурорам СССР быў прыгавораны да расстрэлу малодшы брат легендарнага самаркандскага камісара Д. Ф. Івашкі — Макар Фёдаравіч Івашка, ураджэнец вёскі Малыя Грыцэвічы. Пастанова была прыведзена ў выкананне праз два дні. 50 год пасля гэтага ён лічыўся «ворагам народа» і толькі сёлета па маёй заяве М. Ф. Івашку рэабілітавалі.

Такі ж лёс напаткаў і Р. Д. Каканя, ураджэнца вёскі Заастравечча. Перад арыштам ён працаваў мадэльшчыкам маскоўскага завода «Станкаліт». Рыгора Дзям'янавіча абвінавацілі ў правядзенні контррэвалюцыйнай фашысцкай агітацыі і выказванні тэрарыстычнага настрою. І ўсё гэта было «даказана» на асабістых паказаннях Р. Д. Каканя. З перыядычнага друку мы цяпер ведаем, як садысты-следчыя выбівалі паказанні ў арыштаваных...

Памеры артыкула не дазваляюць назваць іншыя прозвішчы.

На вялікі жаль, пра лёс многіх рэпрэсіраваных землякоў пакуль нічога невядома. І даведацца пра гэта не так проста. Практычна не захавалася дакументаў па месцы іх апошняй работы. Следчыя НКУС знішчалі ўсе сляды: забіралі ў сям'і арыштаваных дакументы, фотаздымкі, узнагароды і г. д.

Вось характэрны прыклад. Займаючыся вывучэннем жыцця і дзейнасці ўраджэнца Столінскага раёна, былога самаркандскага абласнога камісара В. С. Гушчы, мне стала вядома, што ў канцы 30-х гадоў ён і яго брат Д. С. Гушча сталі ахвярамі беззаконня. Але пра гэта іх родныя сёстры, што і цяпер жывуць на Століншчыне, нічога не ведалі. Я напісаў у КДБ БССР запытанне пра Д. С. Гушчу. Адказу не прыслалі, а толькі з мясцовага аддзела КДБ вусна паведамілі, што, як напісалі ім з Мінска, інфармацыю пра Д. С. Гушчу могуць паведаміць толькі яго блізкім родзічам(?). (Як потым высветлілася з іншых крыніц, Даніла Сцяпанавіч Гушча быў арыштаваны 4 верасня 1937 года і па пастанове Калегіі НКУС СССР ад 12 красавіка 1938 года расстраляны, 3 снежня 1957 года ваенным трыбуналам БВА рэабілітаваны пасмяротна. — У. С.). Але не атрымалі патрэбнага тлумачэння на сваё пісьмо і сёстры Ганна і Кацярына Гушчы. Прадстаўнік КДБ сказаў ім, што браты ні ў чым не вінаваты і пасмяротна рэабілітаваны. І ўсё. А дзе яны вучыліся, працавалі, які лёс сям'і Васіля Сцяпанавіча і г. д. — ні слова. Давялося зноў звяртацца ў Мінск да старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі БССР. І на гэты раз праз прадстаўніка райаддзела КДБ даслалі фармальную адпіску: пра кожнага брата напісалі па адным сказе.

Няўжо біяграфічныя звесткі братоў Гушчаў з'яўляюцца сакрэтнымі, і пра іх нельга падрабязна расказаць родным людзям? Напэўна, не. За гэтым бачацца тыя сілы, якія вельмі зацікаўлены ў тым, каб схаваць даўнія справы пад покрыва «сакрэтнасці», не паведамляць ніякіх звестак пра закатаваных. А гісторыя, цяперашняя перабудова ў краіне патрабуюць усё называць сваімі імёнамі: дрэннае — дрэнным, а добрае — добрым.

**Уладзімір САЗАНОВІЧ,**
г. Пушкіна Маскоўскай вобл.

**Валянцін ТАРАС**

# Дарога да Курапат

Паміж вялікіх падзей і дат
памяць захоўвае і дэталі.
Помню, усюды вісеў плакат:
дрэва саджае Сталін.

Лапата ў руцэ, палівачка ля ног,
і, нібы афарызм генсека,
надпіс унізе, адзін радок:
ДРЭВА — ДРУГ ЧАЛАВЕКА.

Пазней,
прайшоўшы лагерны гарт—
школу садоўніка з Горы,
Рыгор Бярозкін нам выдаў жарт,
за смехам схаваўшы горыч:

— Я думаў, калі з галадухі пух,
калі канала спадзева:
дрэва пасадзіш — вырасце друг,
друга пасадзіш — вырасце дрэва.

...Час на шматкі разарваў плакат,
ды ўсё ж у гісторыю ўлез ён!..
Ад Зялёнага Луга да Курапат
дарога
ідзе
лесам...

## УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

### Міхась ШЭЛЕХАЎ



Міхась Шэлехаў нарадзіўся ў вёсцы Плотніца Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна, Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў пры Дзяржкіно СССР. Зараз працуе рэдактарам на «Тэлефільме» Дзяржтэлерадыё БССР.

Удзельнік VIII Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў. Першая кніга паэта на рускай мове выйшла ў 1987 годзе «Слово ненастное, слово лазурное» (прадмова Уладзіміра Сакалова, М., «Современник»), рыхтуюцца новыя кнігі ў выдавецтвах «Советский писатель» і «Молодая гвардия».

Вершы друкаваліся ў часопісах «Новый мир», «Литературная учеба», «Юность», «Студенческий меридиан», альманахах «День поэзии-1983, 1986», газетах «Комсомольская правда» і «Литературная Россия», калектыўных зборніках і альманахах «Дерзость», «Багульник», «Истоки».

На беларускай мове вершы змяшчаліся ў альманаху «Дзень паэзіі-1987», у газеце «Знамя юности», падрыхтаваны ў часопісах «Беларусь», «Крыніца», калектыўным зборніку «Лагодны промень рачіцы». У выдавецтва «Мастацкая літаратура» здадзена кніга паэзіі «Славянская зорка».

### *Апошні шэлег*

У твань балот вяртаўся продак мой
І — уздымаўся чорнаю пшаніцай.
І часам не было ў яго крыніцы,
Каб разглядзець цудоўны выгляд свой.

Як чорны хлеб, расціў сваіх сыноў
І не разгадваў таямніцы свету.
Але прад грозным панствам купалоў
Ён не ламаў душу, як цыгарэту.

З душою птушак, кветак і звяроў
Ён ціха жыў — ад мора і да мора.
І ветлівасць язычніцкіх багоў
Вяла яго на грозны пір сузор'яў!

Апошні шэлег, каб адвёз Харон,
На пеўнікі кідаў бадзёра ўнуку...
І моўчкі плёўся ён да стромы дзён,
І смерць вучыў, як каваля навуку!

І клаў ён перавозчыку ў руку
Аладку, соты ці ружовы яблык...
І казкаю сялянскай на вяку
Пасмейваўся і з караля, і з д'ябла.

А кола дзён круціла небасхіл!
І чалавека новы лёс знаходзіў.
Калі ён рыбу на рацэ лавіў —
Ён рыбаю вяртаў сябе прыродзе!

Шуміць мой род на полі, як трава.
Нішто між намі не спаліла моста!
Душа дзядоў, як хлебны дух, жыва.
Маліся, век! І будзем жыці проста.

І лес, і поле — родныя! Зірні!
І — уваходзь з малітваю на веча...
Дубовы ліст сарвецца з вышыні!
І ў шапцы дзеда паплыве да сэрца.

І я іду, нашчадак хараства,
З лістом дубовым — медным сцягам славы!
І голас дзеда, ціхі, як трава,
Чакае ўжо ля лодкі пераправы...

Пад сакавіцкі шолах капяжа
Іду я прэч! І бог смяецца сыну.
Але зірні, вясёлая душа,
Апошні шэлег я сынам пакінуў...

### *Звяно*

«Распалася сувязь дзён».
У. ШЭКСПІР. «Гамлет».

Ізноў жалобны марш іграюць...
Куды знікае чалавек?
Няўжо нідзе не сустракаюць
Яго ў другі шаноўны век?

Пасеклі гай. Няма крыніцы.
Бялеюць косткай — карані.
Як шклянка, можа свет разбіцца...
Як шклянка, людзі, нашы дні!

А што, калі не ажываюць
Крыніцы, пушчы і бары?
І разам з імі паміраюць
І душы бедныя ўнутры?

Дзе знойдзеш потым ты прапажу,
Калі любоў засне ў бядзе —
Ад мёртвай лірыкі пейзажу,
Дзе роднага няма нідзе?

Ці, можа, йдуць на папялішча
І людзі сумнаю чаргой
За тое, што прыроду нішчаць
І труцяць луг з жывой травой?

Я горка ўсмешкай суцяшаю
Стагоддзяў дзікі карагод:
— Знікай сабе, душа пустая!
Сусвет змяняе нас — на лёд...

### *Палессе*

У ботах чалавечы шлях
Ідзе да Прыпяці напіцца...
Як пахне ёлка на лугах,
Як плачацца перапяліца!

Салодка дыхаць сэрцу там,
Дзе пахне рыбаю і мёдам,
Дзе доўга плакаць — салаўям
І ўвасабляе дождж — прыроду.

Дзе згубай пахне ад канаў
Каналізацыі балотнай,
І дзе лясун даўно сканаў
Ад інквізіцыі гаротнай!

Ад хімікату спіць трава.
І краскі не адкрыюць вочы.
Ляжыць асілка галава
І песню даўнюю балбоча...

Куды ісці, стары Іван?
Душа не ведае прытулку.
Стаіць, як нейкі яшчар, кран
І ў глебу пне — стралу ці люльку...

І курыць грэшная зямля,
Нібыта, свету — утварэнне!
На жаль, няма цара Пятра —
Адсек бы голаў за курэнне.

А ў небе чаячча бяда
Хусцінкай шэраю маячыць.
І ў зрэнках возера вада
Чарнее ад смалы і плачу.

Тут чырвань шлюбу і нуда
Да твару і палям, і небу.
Тут попел Страшнага Суда
Мяшаюць з порахам да хлеба...

### *Ішла ігруша*

Ішла палямі жоўтая ігруша,
Ішла кудысьці — можа, на Тыбет...
А ў плечы ёй глядзелі змрок і сцюжа
І варушылі воўчы свой хрыбет.

Дзе йшлі калісьці продкі ў Палесціну,
І вандравалі рыцары з крыжом,
Дзе груганы раздзёўбвалі даніну,
Дзе йшло жыццё — крывавым капяжом,

Вякі міналі, войны, ураджаі...
І моўчкі мы за імі — след у след...
Ішла ігруша, можа, ў Гімалаі,
А можа, па суседству — на Тыбет.

— Куды з Палесся цягнешся, ігруша,
Патлатая бабулька па шашы?
Ці з Турава ты, — запытацца мушу, —
Ці з вёскі той, дзе сёння — ні душы?

Чаго блукаеш уначы, дзе глеба
Карэнняў просіць — цешыць і паіць?
Няўжо табе не дапаможа неба
Сярод дзяцей гады свае дажыць?

...Маўчыць старая, пра сябе шапоча...
Завяжа хустку патужэй вузлом,
Як матка боска ў горасці жаночай —
Ідзе, шукае свой бацькоўскі дом!

А ў небе свеціць зорка ці суніца,
Што збегла прэч ад лейкеміі той...
І дзе цячэ гаючая крыніца,
Што дасць вады заморанай старой?

Ішла ігруша — як апошні прысмак
І хараства, і любасці жыцця...
...Таму, хто лаяў:
— Прэч адсюль, старызна! —
Таму яшчэ адпіша лёс суддзя.

Качэўнікі сусветнае культуры,
Вы зварушылі непарушны лад!
І на сусветны змрок макулатуры
Наш асудзілі першабытны Сад.

Калі асудзіць вас шалёны попел,
Агонь вялікі — і Пакутны Дзень,
Ці возьме вас на свой цудоўны човен
Той перавозчык — ці ахвяраў цень?

І там, на рэштках хараства ці раю,
Чакае вас, злавесных майстры,
З Палесся абмялелая старая —
Ігруша ў чорнай вопратцы кары!

Да часу, як патопам стане суша,
Адзін матыў ратуе белы свет:
— Ішла палямі жоўтая ігруша,
Ішла кудысьці, можа — на Тыбет...

### *Бензінавы рак*

Ліловы вечар мые берагі.
На чорнай гліне — след нагі?
Ці дзюбы?
Тут рыба збегла ў поле—ад тугі?
Ці птушка ў рэчку ўпала —дзеля згубы?

Не здолее ў балота ўлезці рак,
Ад сіняга бензіну хваравіты...
І белы, як крухмал, ляжыць шчупак,
Вінтамі на кавалкі перабіты.

А ён, бензін, — шалее з кожным днём,
Такі вясёлы, пахкі, каляровы!
І мы чагосьці песень не пяём...
А продкі ад звяроў вучылі словы!

Ды нешта прытамілася ў грудзях,
Нібы матор тут сапсаваў машыну...
Не кружыць сэрца ўжо шыпшыны пах!
Матор маўчыць, хоць поўны бак —
бензіну.

І мучыцца душа! Ды ўсё ніяк
Не дамаліцца нашай сілы белай!
І курчыцца душа, нібыта рак
Ля чорнай здані рэчкі ашалелай...

### *Жанчына*

Як дарослыя людзі — Хрыста,
Распінаюць цішком піянеры
На бярозе — чужога ката,
Нібы ў іх — недзіцячыя нервы.

І такая самота вакол!
Што з вяселля ці проста з ляноты
І бадзяга да іх падышоў
І стаіць, бы какора, ля плота.

На здзічэлы жывёліны крык
Адзавецца старая жанчына...
І разгоніць малых і дурных,
І п'янтоса — дубцом у хвіліну.

Зніме бедныя лапы з цвікоў
І абмые з канавы вадою!
І разыдзецца цемра вякоў
Перад светлай жаночай бядою...

# Як жывеш, Заходняя Дзвіна?

Нядаўна Беларускім аддзяленнем Савецкага фонду міру і Саюзам пісьменнікаў рэспублікі праведзена сумесная культурна-экалагічная экспедыцыя літаратараў, вучоных і спецыялістаў па Заходняй Дзвіне пад дэвізам «Мір планеце — здароўе і сілы зямлі». У ёй удзельнічалі беларускія пісьменнікі В. Якавенка, С. Панізнік, І. Васілеўскі, У. Арлоў, іх латышскія калегі А. Сніпс, Э. Зірніс, Ю. Кунас, А. Лацэ і М. Пятроў з Калінінскай вобласці, а таксама калінінскі краязнавец, кандыдат гістарычных навук В. Вараб'ёў; мінчанін, кандыдат тэхнічных навук, загадчык лабараторыі планавання і прагназіравання Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў В. Плужнікаў, які раней прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы першай у краіне «Схемы комплекснага выкарыстання і аховы водных і зямельных рэсурсаў басейна ракі Заходняя Дзвіна», дакумента міжрэспубліканскага значэння, зацверджанага Дзяржпланам СССР. У экспедыцыі прымалі ўдзел і супрацоўнікі Дзяржаўнага камітэта БССР па ахове прыроды.

Былі даследаваны вярхоўі ракі на тэрыторыі Калініншчыны і Смаленшчыны, яе сярэдняе цячэнне ў Беларусі і ніжняе — у Латвіі. Высветлілася, што ў шэрагу месц парушаецца заканадаўства аб ахове прыроды, рака забруджваецца, у яе трапляюць неачышчаныя сцёкавыя воды.

Па маршруце экспедыцыі быў заезд у вёску Боркі, паблізу Невеля, дзе адбылася сустрэча з вядомым савецкім публіцыстам, лаўрэатам Ленінскай прэміі Іванам Васільевым. Удзельнікі экспедыцыі пабывалі і ў вёсцы Палібіна, былым маёнтку першай рускай жанчыны-прафесара матэматыкі С. Кавалеўскай, дзе працуе музей.

Сустрэча з партыйна-гаспадарчым актывам прайшла ў горадзе Андрэапалі. Спачатку выступілі вучоныя і спецыялісты, потым літаратары чыталі свае творы. Гаворка ішла не толькі аб захаванні прыроды, а і аб барацьбе за мір, міжнародную бяспеку.

Падобныя сустрэчы адбыліся і ў іншых месцах, у тым ліку на агульнагарадскіх ачышчальных збудаваннях Віцебска, у Навапалоцкім прамысловым вузле, у горадзе Верхнядзвінску. У Віцебску ўдзельнікі экспедыцыі гутарылі з кіраўніцтвам нефармальнага аб'яднання «Узгор'е», якое праводзіць значную работу па захаванні і рэстаўрацыі помнікаў даўніны. Члены аб'яднання ўдзельнічалі ў арганізацыі дабрачыннага канцэрта артыстаў-коласаўцаў, сродкі ад якога пералічаны на аднаўленне помніка дойлідства XVIII стагоддзя.

**І. ШКАТУЛАЎ,**
**начальнік аддзела Дзяржкампрыроды БССР.**



На беразе Заходняй Дзвіны. Фота А. КАМАРОВА.

СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ

Алесь АСІПЕНКА

# СВЯТЛО БЛІЗКАЙ ЗОРКІ

ЧАМУ я заўсёды бачу яго ў сонечным ззянні? Сустракаліся ж у слоту, завіруху, дождж і яшчэ чорт ведае ў якую непагадзь. Дык не, прыгадаю яго і адразу бачу яркую віднату, кола купальскага сонца, сінія цені, бліскучае — да рэзі ў ваччу — люстэрка вады.

Вось ён стаіць у пакоі, запырсканы сонечным святлом, і сам сонечны з галавы да ног, у белай вышыванцы, з нейкім загарэлым да негрыцянскай чарнаты партфелем. А насупраць дзве азярыны Панчанкавых вачэй, блакітных і ўсмешлівых — во ўжо дзе да месца сказаць: азярыны смяяліся. Як у Максіма Горкага: море смеялось...

Або вось яшчэ адно бачанне — групавы партрэт на зімовым фоне. Скупое лютаўскае сонца хаваецца ў радабоддзі хмар, як бы саромеючыся зазірнуць у вокны пісьменніцкага клуба ў тым, старым, будынку, дзе яго прымалі ў Саюз пісьменнікаў. Чарговы аратар з неўміручай пароды магільшчыкаў прыгожага пісьменства закалочвае апошні цвік у дамавіну з раманам «Леаніды не вернуцца да зямлі» — набор кнігі рассыпаны, а яму, аўтару, міласціва давалася права сказаць апошняе слова, як на судзе, пасля смяротнага прысуду. Ён парыўна ўвайшоў у залу і спыніўся: сонца, прарваўшы хмары, высцеліла перад ім жоўтую сцяжынку на затаптаным паркеце. Некалькі імгненняў ён стаяў, прымжыўшы вочы ад бляклых промняў лютаўскага сонца.

— Адных я люблю, другімі — пагарджаю, — кінуў ён у залу бязлітасныя словы. — Апошнім адказваць бескарысна....

Ён павярнуўся і пайшоў да дзвярэй, несучы на прыгорбленых плячах кавалачак сонца. Ён — выйшаў, сонца — схавалася за хмары.

Яшчэ бачу яго на крутым беразе Нёмана каля бессмяротнай Каложы. Царква ў сонечнай пазалоце. Ён, задраўшы галаву ў сіняе неба, фантазіруе на тэмы прызямлення Хрыста ў Гродні. Фантазія ў яго таксама сонечная і каляровая, як вясёлка.

І ўжо зусім яркі малюнак. Ізумрудна-зялёны поплаў, невялічкая затока, як сажалка, — старыца Свіслачы — аж зіхаціць ад сонца, і ён на беразе той затокі, толькі што вылезшы з халоднай яшчэ вады, голы і ўвесь абліты сонцам ад аўсянага чуба да жоўтай, як малое куранё, пяткі, якую ён, падскокваючы на адной назе, стараецца разгледзець.

— Хлопцы, — кажа ён з той сур'ёзнасцю, якая патрэбна, каб замаскіраваць нястрымны смех, — што там, халера на яе, коле?..

Нехта жартуе:

— Страла Купідона...

Ён рагоча бесклапотна і весела:

— Ахламоны вы і вісусы, хіба Купідон страляў у пяткі?..

Ланцужок згадак-прыгадак, якія нанізаны на адзін стрыжань.

●

Гэты ён — такі розны ў розных абставінах і такі пастаянна гарэзлівы — Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, божай міласцю паэт, празаік, эсэіст, драматург, крытык, сцэнарыст, чалавек энцыклапедычных ведаў і нястомнай працавітасці, яркая і блізкая чытачу зорка на літаратурным небасхіле, які то прасвятляўся на кароткія часіны, то надоўга зацягваўся смугою. Радасці былі кароткія, засмучэнні — наадварот. Не заўсёды можна было развінуць на ўвесь мах крылы для творчасці нават яму, няўрымсліваму рамантыку і жыццялюбу.

Адзін з былых і даўніх кіраўнікоў культурнага фронту неяк падвёў драматурга да акна ў сваім кабінеце і, паказваючы на галоўны праспект сталіцы, параіў зусім сур'ёзна:

— Бачыш праспект? Во, і хадзі па ім. Навошта зварочваць на бакавыя вуліцы?..

Караткевічу хацелася пахадзіць па Нямізе, не цяперашняй, а старажытнай, калі яшчэ і вуліцы такой не было, а толькі рака і абапал яе па крутых берагах стаялі войскі Усяслава Полацкага і трох Яраславічаў. І ён ніяк не мог зразумець, чаму яму нельга хадзіць па сцежках гісторыі, а толькі па сучасным праспекце.

У Караткевічу дзіўным чынам ужываліся ўзнёслы да наіўнасці рамантызм з бязлітасным рэалізмам. Ён глядзеў на свет як бы праз дзве прызмы: адна прыводзіла яго да экстазу перад прыгажосцю і буйнасцю жыцця, другая — да роспачы перад пачварнай несправядлівасцю і гвалтам. Іншы на ягоным месцы раздвоіўся б, згубіў бы арыенціры, ды і пайшоў па жыцці і літаратуры, як усе, — па праспекце. Караткевіч застаўся верны сабе і сваім прыхільнасцям. У яго быў добры дарадца — мудрасць.

Мудрасць не набытак гадоў, як мы звыклі меркаваць. Яна — узровень чалавечага інтэлекту. Памножаная на апантанасць, мудрасць нараджае сапраўдныя дзівы мастацтва, якімі і былі творы Уладзіміра Караткевіча.

Бяруся сцвярджаць, што сёння мы знаходзімся толькі на подступах да разумення ягонай творчасці і яго самога як асобы. Адкрыццё адбудзецца пазней, калі выйдуць у людзі ўсе ягоныя творы, у тым ліку і маленькія шэдэўры эпісталярнага жанру — ягоныя пісьмы. Ды і не толькі яны...

●

Нас чатырох — У. Караткевіча, І. Навуменку, І. Клаза і мяне — прымалі ў Саюз пісьменнікаў у адзін дзень напярэдадні выхаднога ў самы пік лета.

Ярка свяціла сонца. Цвілі на праспекце ліпы. На душы млела ўрачыстасць. Але забірала і трывога. Не толькі мяне аднаго. Ды і не дзіва — прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў выглядаў салідна, прадстаўніча: Кандрат Крапіва, Янка Маўр, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Ільля Гурскі, Пімен Панчанка, Янка Брыль...

Галасавалі тады адкрыта... выступалі таксама адкрыта. Гаварылі праўду ў вочы.

Пра Уладзіміра Караткевіча — маладзейшага сярод нас — гаварылі хораша, хоць з нейкімі заўвагамі па творчасці, але шчыра, добразычліва. Дэталі згладзіў час. Тая атмасфера высокай патрабавальнасці і добразычлівасці засталася ў памяці назаўсёды.

З Караткевічам дасюль я быў амаль незнаёмы. Ён закідваў сваімі творамі часопіс «Полымя», верны, як адналюб, толькі яму. Зрэдку заходзіў і да нас у часопіс «Маладосць». Мусіць, адзін з такіх візітаў і ўрэзаўся мне ў памяць.

Сярод дня дзверы ў пакой адчыніліся, і на парозе ўзнік малады, трапяткі, з аржаным чубам непаслухмяных валасоў цыбаты хлопец. Кінуўшы важкае: «Дзень добры», ён у чатыры крокі перасек пакой, спыніўся перад сталом, за якім сядзела Вера Палтаран, адзіная ў пакоі жанчына. Яна падала яму руку на вітанне. Ён узяў руку, як найкаштоўнейшую, богам падараваную рэліквію, і, па-рыцарску ўпаўшы на адно калена, прыклаўся да яе па-дзіцячы пульхнымі вуснамі.

Гэта было нечакана і вельмі прыгожа, бо натуральна і шчыра. Наогул, у яго было трапяткое, абагаўлёнае стаўленне да жанчыны. Ён быў падобны на сваіх герояў, героі падобны на яго. Толькі герою Караткевіча з аповесці «Чазенія» па сіле было несці гераіню ледзь не сем кіламетраў па Усурыйскай тайзе, толькі другому герою дадзена было так любіць, а Караткевічу так прыгожа напісаць пра каханне ў рамане «Леаніды не вернуцца да зямлі». І нават вялікі дыктатар і правадыр перад маленькай балерынай становіцца, хоць бы і на нейкі невялікі час, прыгожым і годным вялікага пачуцця чалавекам.

Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў, мы тады добра пасядзелі ў невялічкім рэстаране на рагу Ленінскай і Інтэрнацыянальнай. З таго дня і перайшлі на «ты». Гэта неяк давала прастору сустрэчам і кароткім, на хаду, абменам думкамі.

Далей і неяк зусім неўзабаве над Караткевічам завылі зімовыя марозныя вятры. Ці не ад іх ён ратаваўся спачатку на вышэйшых літаратурных курсах, а потым і на вышэйшых сцэнарных. Караткевіч балюча перажываў кожны выпад у ягоны адрас, хоць храбрыўся, рабіў выгляд, што яму мала абыходзіць разносная тэндэнцыйная крытыка. Але паспрабуй, не зважай на тую крытыку, калі за ёй ішлі вельмі адчувальныя санкцыі.

Як ён, такі чуллівы і безабаронны, трываў і не зварочваў з аднойчы выбранага ім шляху? Іншыя не вытрымлівалі, зварочвалі і надоўга гублялі сябе, як творцы, змянялі ўласны твар на маску з саладжавым выглядам.

Ён вытрымаў, выстаяў, адстаяў сябе ў літаратуры і грамадстве.

●

Цяпер ужо і не памятаю — мроіцца дужа невыразная праз гады гаворка, — як узнікла ідэя надрукаваць у «Маладосці» аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха», напісаную даўно, але так і застраўшую на палове дарогі да чытача.

Аповесць спадабалася. Чыталі яе ўсе ў рукапісу. Былі і сумненні — рамантычная даўніна. Была ўпэўненасць — аповесць знойдзе чытача. А галоўнае, што аповесць павінна «прайсці» — канцоўка яе аптымістычная, бунтарская.

Яна і сапраўды «прайшла» з дужа нязначнымі заўвагамі і вельмі спадабалася чытачам. Добра памятаю, як на адной сустрэчы з маладымі рабочымі нам паказалі страпаны да дзірак, увесь у мазутных плямах часопіс з аповесцю. Калі гаварыць шчыра, дык часопіс тады не вельмі чыталі, а падпіска на яго падала з году ў год. Аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» ажывіла інтарэс моладзі да часопіса, многіх маладых людзей далучыла да беларускай мовы і памножыла шарэнгі прыхільнікаў творчасці Уладзіміра Караткевіча.

Поспех аповесці быў відавочны. Акрылёны ім, Караткевіч паабяцаў рэдакцыі напісаць яшчэ адзін твор з прыгодамі ў старажытным замку. Задума твора саспела ў яго даўно, і, як казаў ён, трэба толькі засесці за стол.

Але радавацца было рана. Неўзабаве Уладзіміра Караткевіча сталі папікаць захапленнем даўнінай, абвінавачваць у ідэалізацыі мінуўшчыны, у адыходзе ад надзённых праблем, а, значыць, у шкодным уздзеянні ягонай аповесці на моладзь. Не ўратаваў і аптымістычны, бунтарскі канец. Аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» ляжала ў рэчышчы ягонай творчасці, і трэба было мець багатую фантазію, каб бачыць у ёй нешта шкоднае. Але ж бачылі і верылі, што робяць добра.

У рэдакцыі перажывалі за Караткевіча, разумелі — неабгрунтаваная крытыка можа выбіць яго з творчай каляіны. А ён перажываў за нас, рэдакцыйных работнікаў, якім, на ягоную думку, маглі пагражаць непрыемнасці — на памяці яшчэ жыло нядаўняе вызваленне ад пасады галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Аляксея Кулакоўскага.

— Хлопцы, — вінаваціўся ён перад намі, — я вельмі люблю вас і мне

# ЦІ СТАНЕ ПУШЧА ЗАПАВЕДНІКАМ?

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).

выдраў, 60 казуль, 9 рысяў, 20 янотападобных сабак, 750 цецерукоў, 255 глушцоў. Тут ёсць чорны бусел, белая курапатка, трохпальцавы дзяцел, арэхаўка.

Лясны масіў Налібоцкай пушчы знаходзіцца ўсяго за 50 — 60 кіламетраў на захад ад Мінска, на шляху пануючых заходніх вятроў. Таму ён мае вялікае экалагічнае і аздараўленчае значэнне для горада, буйнога прамысловага і культурнага цэнтра рэспублікі. Трэба дадаць, што гідраграфічная сетка складаецца з 23 малых рэк, якія пануюцца ў асноўным на тэрыторыі пушчы і ў раёне возера Кромань.

У Налібоцкай пушчы вядуць комплексныя навуковыя даследаванні інстытуты Акадэміі навук БССР, вучоныя БДУ імя У. І. Леніна, Беларускага тэхналагічнага інстытута імя В. М. Кірава і іншыя навуковыя ўстановы. У прыватнасці, па праграме ЮНЕСКА МАБ Беларускі дзяржаўны універсітэт сумесна з Сафійскім універсітэтам распрацоўвае тэму «Эколага-фаўністычнае вывучэнне заказніка «Налібоцкая пушча», а таксама сумесна з Ягелонскім (ПНР) і Сафійскім універсітэтамі тэму «Флора паўночна-заходняй часткі Мінскай вобласці і перспектывы яе змянення пад уздзеяннем антрапагеннага фактару». У будучым на тэрыторыі пушчы плануецца будаўніцтва навуковай базы.

Такім чынам, трывога за стан Налібоцкай пушчы зусім заканамерная. Больш як дзесяць гадоў назад вучоныя рэспублікі прапаноўвалі стварыць Налібоцкі запаведнік. З таго часу, вядома ж, стан ляснога масіву пагоршыўся. Вось чаму пытанне аб арганізацыі запаведніка не знімаецца з парадку дня і сёння. Я гутарыў на гэту тэму з многімі вучонымі рэспублікі, і яны аднадушныя ў сваіх меркаваннях: наспеў час арганізаваць на тэрыторыі пушчы запаведнік.

У 1985 годзе вучоныя Цэнтральнага батанічнага саду АН БССР, дэталёва вывучыўшы гэта пытанне, выказалі абгрунтаваную прапанову аб арганізацыі Налібоцкага дзяржаўнага ландшафтнага запаведніка на плошчы ў 37,8 тысячы гектара. Яны прапаноўваюць уключыць у састаў запаведніка чатыры лясніцтвы Стаўбцоўскага лясгаса, два — Валожынскага, адно Іўеўскага і адно Навагрудскага лясгасаў. Прывядзём некаторыя з аргументаў вучоных:

Лясны масіў пушчы мае вялікае гідралагічнае значэнне ў сувязі з размяшчэннем яго ў вярхоўях шматлікіх малых рэк, дзе фарміруецца ў асноўным сток Нёмана;

На тэрыторыі выяўлены новыя для рэспублікі віды, у ліку якіх занесеныя ў Чырвоныя кнігі БССР і СССР;

Спалучэнне тэрыторый, якія закранула гаспадарчая дзейнасць, і тых, якія знаходзяцца ў натуральным стане, стварае сацыяльныя ўмовы для арганізацыі ў перспектыве біясфернага запаведніка;

Налібоцкая пушча размешчана паблізу Мінска на шляху пануючых заходніх вятроў і мае вялікае экалагічнае значэнне для аховы і аздараўлення горада.

Вядучы навуковы супрацоўнік Цэнтральнага батанічнага саду АН БССР, доктар біялагічных навук Анатоль Васільевіч Бойка таксама падтрымлівае ідэю аб стварэнні Налібоцкага ландшафтнага запаведніка. Такой жа думкі прытрымліваецца і старшы навуковы супрацоўнік ЦБС, кандыдат сельскагаспадарчых навук Канстанцін Міхайлавіч Еўсіевіч. Яны шмат гадоў вывучаюць расліннасць Налібоцкай пушчы, добра ведаюць яе, з'яўляюцца аднымі з аўтараў кнігі «Эколага-фітацэнатычныя даследаванні лясной раслінасці Налібоцкай пушчы», якая выдадзена ў 1983 годзе.

А вось думка дацэнтаў БДУ імя У. І. Леніна Галіны Іосіфаўны Зубкевіч і Тамары Аляксандраўны Сауткінай, адных з аўтараў кнігі «Флора Налібоцкай пушчы»:

аж брыдка, што падвёў вас сваёй аповесцю. Хай бы яшчэ ляжала.

Ён быў такі, вельмі далікатны ў дачыненні да сяброў і гатоў быў браць на сябе віну, абы выгарадзіць таварышаў.

Асобнай кнігай аповесць тады так і не выйшла. І абзацаная аповесць паявілася ў друку праз шмат гадоў — «Чорны замак Альшанскі».

І яшчэ адзін нагадак пра ягоную публікацыю ў часопісе «Маладосць».

Неяк Уладзімір Караткевіч папрасіўся ў камандзіроўку на Палессе. Тыдні праз два ён сядзеў у рэдакцыі і абурана расказваў, як знішчаюцца старажытныя, можа, адзіныя ў свеце помнікі культуры і архітэктуры, захапляўся палескай прыродай, сівымі легендамі і сказаннямі.

Я пажартаваў:

— Выгаварышся і не захочаш пісаць...

Ён адказаў з болем у голасе:

— Не пісаць — крычаць хочацца...

Нарыс быў надрукаваны. Называўся ён «Званы ў прадонні азёр». Адзін з лепшых нарысаў Уладзіміра Караткевіча, актуальнасць якога відавочна і сёння.

То быў сапраўды крык збалелай душы.

За «Маладосцю» тады сачыла не адно пільнае вока. Шчыра прызнаюся: многія мясціны нарыса выклікалі ў мяне, як рэдактара, нядобрае прадчуванне. Рука так і ўзнімалася, каб нешта папраўіць, выкрасліць, падгладзіць. Але тут жа і апускалася.

Напярэдадні завітаў Уладзімір Караткевіч, папрасіў:

— Стары, вельмі прашу — не праўце. Лепей не друкуйце...

Я разумеў яго: кожнае слова ў нарысе — праўда, набраклая гневам супраць тых, каму абыякавая гісторыя народа, хто не даражыць ягонымі набыткамі.

Што будзе, тое хай і будзе!

І ўсё ж адзін грэх я ўзяў на сваю душу: выкрасліў не вельмі вялікі абзац недзе пад самы канец нарыса. Падумаў: можа, Караткевіч і не заўважыць. А што абзац гэты можа выклікаць прычэпкі ў вельмі пільных крытыкаў, я чамусьці не сумняваўся.

Часопіс выйшаў у свет. Ніхто, здаецца, не выказваў незадаволенасці, наадварот: хвалілі нарыс узнёсла за смеласць, праблемнасць, праўдзівасць.

Дзён праз дзесяць, а мо і болей, у дакладзе на ідэалагічнай нарадзе нарыс быў жорстка раскрытыкаваны, а ў якасці аргумента апалітычнасці і ледзь не ідэалагічнай дыверсіі прыведзены той самы абзац, які я выкрасліў.

Нейкая чартаўшчына! Сам жа выкрасліў, а потым яшчэ чытаў нарыс у карэктуры, праглядаў, калі падпісваў да друку. Адкуль узяўся той «крамольны» абзац?..

Тым часам, на падставе таго абзаца быў зроблены і зусім не двухсэнсоўны закід у адрас «Маладосці»: дакуль яна будзе дапускаць такія сур'ёзныя памылкі?

Побач са мной на той нарадзе сядзеў малады перспектыўны гісторык. У адказ на закід дакладчыка ў адрас часопіса кінуў злосную рэпліку:

— Судзіць трэба! Аўтару — дзесяць, рэдактару — дзесяць! Перастануць памыляцца.

І хоць часы былі другія, пасля дваццатага з'езда партыі, чуць такое, пагадзіцеся, было не дужа прыемна.

Што было, тое было. З песні слова не выкінеш. Сама рэчаіснасць расставіла акцэнты: аўтар стаў славутым пісьменнікам, гісторык — вучоным, рэдактар дажыў да пенсіі, а нарыс жыве, вучыць моладзь любіць свой край, сваю вялікую радзіму, шанаваць працу нашых прапрапрадзедаў.

Ага, дык пра той абзац, выкраслены мной.

Было так. Караткевіч чытаў карэктуру на апошняй стадыі, калі на ёй ужо стаяў мой подпіс. І, вядома, ж, заўважыў, што дарагога яму абзаца няма. Дзяжурыла па нумару Вера Палтаран. Калі Караткевіч звярнуўся да яе з пытаннем, хто выкрасліў абзац, яна адказала, што ён няйначай «выпаў» пры вёрстцы. Месца, каб уставіць яго, было. Уставілі і адаслалі ў набор.

Ніякай чартаўшчыны. А нарыс і па сённяшні дзень выдаецца з тым абзацам.

●

У старым Доме творчасці — Каралішчавічах — ішоў семінар кінадраматургаў.

Была вясна. Самая камарыная пара. Мы хадзілі пагрызеныя. Палілі кастры, каб адагнаць тых праклятушчых камароў, а ў часе пасяджэнняў бязбожна дымілі цыгарэтамі. Камары толькі пасміхаліся.

Сярод кіраўнікоў семінара былі маскоўскія і вельмі папулярныя на той час кінадраматургі: Фрыд і Дунскі — неразлучныя сябры і аўтары сцэнарыяў. Караткевіч жартаваў, што ёсць адзін кіраўнік, якога можна называць або Фрыд-Дунскі, або Дунскі-Фрыд.

Аднаго разу Уладзімір Караткевіч сказаў:

— Хлопцы, ну, што могуць запомніць пра нашу Беларусь Фрыд-Дунскі або Дунскі-Фрыд? Камароў-крывасмокаў. Дык гэта ж будзе вельмі скажонае ўяўленне аб нашым краі. Давайце зробім добрую справу, пачастуем іх беларускімі грыбамі. Далібог, яны гэтага заслужылі, і магу паспрачацца, што, апрача маскоўскага асфальту і калымскай тундры, яны анічога не бачылі.



Намалявана У. КАРАТКЕВІЧАМ 15 мая 1968 года на заключным пасяджэнні семінара сцэнарыстаў у Доме творчасці ў Каралішчавічах.

На ягоную прапанову адгукнуліся Слава Шмыроў, акцёр і сцэнарыст беларускай кінастудыі, і я. Утрох мы назбіралі два паўнюсенькія кошыкі маладых смаржкоў і страчкоў. Караткевіч сам узяўся гатаваць іх па адным яму вядомым рэцэпце, адкапаным ім ці то ў бібліятэцы Радзівілаў, ці то ў архіве Сапегі. А каб, часам, тайна рэцэпта не стала вядома мілітарыстам з НАТА, ён прыняў усе меры засцярогі, гэта значыць, выгнаў усіх з кухні, пакінуўшы сабе ў памочнікі кухара Таццяну. З нас жа — Шмырова і мяне — узяў урачыстае слова ні пры якіх абставінах не гаварыць гасцям пра грыбы — патрэбна для эфекту нечаканасць.

Гадзіны праз паўтары са сталовай пацягнулася ў жылы корпус працэсія на чале з Караткевічам. Ён нёс каструлю са смажанымі грыбамі, за ім кухар і афіцыянтка неслі талеркі, відэльцы, чаркі і яшчэ сёе-тое для падмацавання.

— Не праглыніце языкі, бо чуеце, як смачна пахне. Аж няма слоў і таленту, каб перадаць усю непаўторнасць паху вясновых смажаных грыбоў, — папярэдзіў ён нас і пайшоў клікаць гасцей.

Тыя, аднак, захаплення не падзялілі, а нават жахнуліся, што іх паклікалі на грыбы. А важкі, на думку Караткевіча, аргумент, што грыбы гатаваў ён сам, толькі павялічыў страх перад такой нечуванай для вясны стравай.

Спасылаючыся на розныя хваробы і парады ўрачоў, госці далікатна, але і настойліва адмовіліся пакаштаваць смажаныя грыбы, аддаўшы перавагу смажанаму мясу.

Смажаныя грыбы былі сапраўды надзіва смачныя. Бачачы, што з намі нічога дрэннага не здарылася, абодва сцэнарысты неўзабаве адважыліся пакаштаваць і былі вельмі здзіўлены, што грыбы такія смачныя. А Валодзя Караткевіч праслыў сярод масквічоў яшчэ і вялікім гурманам і непераўзыдзеным кухарам.

Пасля гэтага пачаліся ягоныя варыяцыі на кулінарныя тэмы. Можна было падзівіцца, якіх толькі страў не ведаў Караткевіч. І з дзічыны, і з птушак, і з рыб. Часам мне здавалася, што некаторыя стравы Уладзімір Караткевіч выдумвае непасрэдна тут, за сталом: вельмі ўжо выглядалі яны фантастычна. Але ён расказваў пра іх так ярка і праўдзіва, што сумнявацца можна было толькі моўчкі.

А прыгадалася ўсё гэта ў сувязі з тым, што з таго семінара на памяць мне застаўся малюнак, зроблены рукой Уладзіміра Караткевіча.

На заключным пасяджэнні мы сядзелі з ім поруч. Гаворка чамусьці завіравала вакол прывіду атамнай вайны. Можа, перад гэтым глядзелі нейкі зарубежны фільм, а можа, слухалі лекцыю на міжнародную тэму — абстаноўка ў свеце тады была трывожная, вясна 1968 года.

Караткевіч слухаў, маўчаў, хмурыўся. У ягоных руках паявіўся аркуш белай цвёрдай паперы. Прыкрыўшыся левай рукой ад цікаўных вачэй, ён нешта маляваў на тым аркушы. Ужо калі закончылася пасяджэнне, ён аддаў малюнак мне. У сваім пакоі я разгарнуў аркуш паперы. На ім — дзве малпы: адна завісла на суку з галінкай і чатырма лісточкамі і рагоча; другая — стаіць на карачках і злосна паглядае на чалавека ў парванай вопратцы, зняможанага голадам, дарогай і страхам. Чалавек ідзе з горада, які відаць удалечыні. Над горадам стаіць атамны грыб.

Унізе пад малюнкам подпіс: «Вяртанне аблуднага сына».

Вясна. Камары. Сонца. Смаржкі і страчкі. Атамны грыб. Адзінокі на планеце чалавек, які вяртаецца ў сваё пячорнае мінулае.

Жыццё і алегорыя.

Ён быў яшчэ мастак. Адметная рыса выдатнага таленту.

●

У кіно яму не шанцавала.

Фільм па рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» атрымаў нізкую катэгорыю ды так і застаўся вязнем кіношнай паліцы.

Ён пісаў і напісаў сцэнарый двухсерыйнага фільма пра славутую бітву на Нямізе. Спецыялісты сцэнарый хвалілі, раілі ставіць. З усяго семінара ён сапраўды мог мець зайздросны лёс. У студыйнага начальства і ў Дзяржкіно БССР сцэнарый выклікаў боязь. Як жа, даўніна, гісторыя. Можа быць перакос, калі патрабуецца рабіць фільмы на сучасныя тэмы.

Больш-менш удалай атрымалася экранізацыя аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». Фільм атрымаў прыз на фестывалі прыгодніцкага фільма. На жаль, захапіўшыся прыгодамі і знешнімі кінаэфектамі, рэжысёр згубіў сутнасць твора Уладзіміра Караткевіча, зацямніў сэнс і думку. Панесла страты і аповесць «Чорны замак Альшанскі». Нездарма ж Уладзімір Караткевіч неяк паскардзіўся:

— Змарнавана шмат часу. Можа, дарэмна, але кіно зацягвае, як чароўны вір. Ды хацелася паспрабаваць сябе ў кіно.

Шкада, што беларуская кінастудыя так рэдка і не заўсёды плённа звярталася да твораў Уладзіміра Караткевіча. У мяне ўвесь час такое адчуванне, што студыя яшчэ не дарасла да Караткевіча, як і да многіх іншых выдатных пісьменнікаў Беларусі. Таму і «корміцца» адходамі другіх студый.

●

Ён здаў неяк адразу. І знешне, і ўнутрана.

Яшчэ пісаў, яшчэ быў поўны задум і планаў.

І ўжо ўвачавідку мяняўся: грузнеў, чарсцвеў, чорна хмурыўся.

Над сабой паджартоўваў з'едліва, нават бязлітасна.

А ў вачах жыла, расла нясцерпная туга. Апошнія гадоў пяць — сем мы бачыліся рэдка: на хаду, на бягу.

Бяда была не ў тым, што ён хварэў — усіх нас не абмінаюць хваробы. Ён абсалютна не берогся.

Была апошняя наша сустрэча. І зноў у сонечны дзень. На беразе Свіслачы, у парку імя Горкага.

Я запыніў яго сам. Не жадаючы таго, пачаў ушчуваць яго, што не беражэцца. На маё здзіўленне, ён слухаў не перапыняючы, а калі я вычарпаў усе аргументы, раптам самотна спытаўся:

— А навошта?..

Угнуўшы плечы, нават не развітаўшыся, ён пайшоў хадою бясконца зморанага чалавека.

Так і стаіць ён у маіх вачах: ідзе па асфальтаванай сцежцы, нібы адыходзіць у другое вымярэнне...

---

«Налібоцкая пушча — гэта адзін з найбольш буйных лясных масіваў у цэнтральнай частцы Беларусі. Яе тэрыторыя размешчана ў зоне, дзе дакладна прасочваецца пераходны характар лясоў ад усходне-еўрапейскіх паўднёва-таежных да заходне-еўрапейскіх шыракалістых. Гэта абумоўлівае разнастайнасць прадстаўнікоў расліннага свету, багацце яе відавога саставу. У выніку дзесяцігадовых фларыстычных даследаванняў, праведзеных супрацоўнікамі і студэнтамі кафедры батанікі БДУ імя У. І. Леніна, у Налібоцкай пушчы выяўлена 820 відаў вышэйшых сасудзістых раслін, што значна перавышае адпаведны паказчык для Бярэзінскага і Прыпяцкага запаведнікаў. Тут знойдзены некаторыя новыя для Беларусі віды раслін, 26 з іх уключаны ў Чырвоную кнігу БССР. У пушчы захаваліся ў добрым стане буйныя папуляцыі такіх ахоўваемых раслін, як мядзведжая цыбуля, шпажнік чарапіцавы, гайнік цёмна-чырвоны і іншыя. Гэта — адзінае ў БССР месца росту балотнакветніку шчыгалістага. У Налібоцкай пушчы можна ўбачыць шматвяковыя пойменныя дубровы з прымессю граба.

Адносна мала парушана гаспадарчай дзейнасцю чалавека расліннае покрыва пушчы. Шмат рэдкіх і каштоўных прадстаўнікоў флоры і фаўны, непаўторная прыгажосць пейзажаў, унікальнасць усяго прыроднага комплексу патрабуюць неадкладных мер па яго ахове. Мы лічым, што даўно наспела неабходнасць арганізаваць тут Налібоцкі запаведнік».

Звернемся да меркаванняў вучоных Інстытута эксперыментальнай батанікі і заалогіі АН БССР. Два гады назад яны абгрунтавалі змяненне статусу Налібоцкага паляўнічага заказніка на біялагічны заказнік, а таксама арганізацыю біялагічнага заказніка «Панямонь» на тэрыторыі Навагрудскага раёна. Вось што яны гавораць:

«Налібоцкая пушча — лясны масіў, які найбольш захаваўся. Значная частка яго забалочана, асабліва паўночныя ўчасткі каля рэк Бярэзіна, Іслач і Волма. Сярод ельнікаў ёсць унікальныя чарнічныя, па паўднёва-заходняй граніцы заказніка праходзіць мяжа распаўсюджвання граба. У цэлым жа пераважаюць тыповыя для Беларусі лясы. Бары займаюць 66,9 працэнта лясной плошчы.

Своеасаблівы раслінны свет спрыяе багаццю і відавой спецыфіцы фаўны. На тэрыторыі заказніка жывуць ласі, казулі, дзікі, куніцы, выдры, глушцы, цецерукі, рабчыкі. У рэках водзіцца харыус, які ўключаны ў Чырвоную кнігу БССР.

Хаця за апошнія дзесяцігоддзі пушча моцна высечана і асушана, яна захоўвае значную каштоўнасць для аховы жывёльнага свету. У сувязі з гэтым мэтазгодна ўвесці ў пушчы запаведны рэжым, змяніўшы статус паляўнічага заказніка на біялагічны. Плошчу яго неабходна скараціць да 71040 гектараў. На гэтай тэрыторыі трэба ўзмацніць ахоўны рэжым, рабіць толькі селекцыйную здабычу жывёл, разгарнуць навуковыя даследаванні для канчатковага вырашэння пытання аб ахоўным статусе пушчы».

Вучоныя-біёлагі прапаноўваюць таксама стварыць біялагічны заказнік на плошчы каля дзесяці тысяч гектараў у Навагрудскім раёне ў пойме ракі Нёман на паўднёвым захадзе Налібоцкай пушчы.

Думку аб неабходнасці стварэння запаведнай тэрыторыі ў Налібоцкай пушчы падтрымліваюць вучоныя-біёлагі, з якімі я сустрэўся. Намеснік дырэктара Інстытута заалогіі АН БССР Міхаіл Міхайлавіч Пікулік лічыць, што для захавання расліннага і жывёльнага багацця налібоцкіх лясоў трэба неадкладна ўводзіць там запаведны рэжым. Кандыдат біялагічных навук, супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі Генадзь Уладзіміравіч Вынаеў таксама прытрымліваецца такой думкі. Наогул, тыя вучоныя-біёлагі, якіх я папрасіў выказаць свае адносіны да арганізацыі запаведніка ў Налібоцкай пушчы, горача падтрымалі гэту ідэю. Трэба спяшацца, бо цэнтральная частка рэспублікі з яе непаўторным і своеасаблівым ландшафтам у сувязі з пастаянна ўзрастаючым уплывам дзейнасці чалавека можа страціць свой спрадвечны воблік.

Стварэнне новых запаведных тэрыторый стасуецца з палажэннямі «Асноўных напрамкаў эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гады і на перыяд да 2000 года».

У іх гаворыцца: «Прадоўжыць стварэнне і паляпшаць добраўпарадкаванне зялёных зон гарадоў і пасёлкаў, расшырыць сетку запаведнікаў, нацыянальных паркаў, заказнікаў і іншых ахоўваемых прыродных тэрыторый».

Верыцца, што непаўторная Налібоцкая пушча з яе цудоўнымі барамі, ціхіміляснымі рачулкамі будзе захавана.

**Калектыў Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў БССР выказвае глыбокае спачуванне навуковаму супрацоўніку Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Мікута Веры Іванаўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці БАЦЬКІ.**

